# Голас Радзімы

11 ЛЮТАГА 1999 ГОДА

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 17000 рублёў.

№ 6
(2616)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.

ВІЗІТНАЯ КАРТКА ЗАСНАВАЛЬНІКАЎ

## Аляксандр БІЛЫК, старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь:

# «БЕЛАРУСЫ Ў ЛЮБОЙ КРАІНЕ СВЕТУ ПАВІННЫ АДЧУВАЦЬ ЦЯПЛО РАДЗІМЫ»



*А. БІЛЫК у будынку ААН у Нью-Йорку.*

**Узаемаадносіны дзяржавы з беларускай дыяспарай апошнім часам становяцца больш дынамічнымі. Цяпер у краіне часцей і з заўважна большай цікавасцю сочаць за тым, як жывецца выхадцам з Беларусі ў замежжы, якія праблемы іх турбуюць. Гэта і не дзіўна: па падліках навукоўцаў, за межамі Бацькаўшчыны знаходзяцца сама мала тры з паловай мільёны чалавек. Стан кантактаў з дыяспарай у многім залежыць ад палітыкі, якую праводзіць Беларуская дзяржава, ад Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей.**

**Сёння нашым субяседнікам з'яўляецца старшыня камітэта Аляксандр БІЛЫК.**

**— Аляксандр Мікалаевіч, калі два гады таму вас прызначалі кіраўніком новай структуры, то, відавочна, для гэтага былі важкія падставы. Ды і ваша кандыдатура была не адзінай. Раскажыце, якім быў шлях у сферу нацыянальных адносін і жыцця беларускай дыяспары!**

— Я нарадзіўся ў 1949 годзе на Украіне. Так атрымалася, што пасля вайны там расфарміравалі вайсковую часць, дзе служыў мой бацька. На Украіне, такім чынам, прайшла частка майго жыцця — юнацтва. Скончыў з адзнакай гістарычны факультэт педінстытута ў Камянец-Падольску. А ў Беларусь трапіў служыць. Зноў жа лёс распарадзіўся так, што тут ажаніўся і застаўся на ўсё жыццё. Цікаўнасць да сферы жыццядзейнасці нацыянальнасцей з'явілася падчас вучобы ў аспірантуры, бо тэма маёй дысертацыі гучала наступным чынам: "Фарміраванне культуры міжнацыянальных адносін". На працягу чатырнаццаці гадоў працаваў у політэхнічнай акадэміі, выкладаў сацыялогію, паліталогію. У 1991 годзе ранейшая тэма зноў актуалізавалася: я напісаў ліст у Вярхоўны Савет, дзе выклаў прапановы адносна таго, што трэба зрабіць у краіне, каб не абвастрыліся праблемы міжнацыянальных адносін. У той час гэта здарылася ў Нагорным Карабаху, у Фергане, Сумгаіце і іншых "гарачых кропках". Прапановы датычыліся таго, якія даследаванні належала б зрабіць, методыкі іх правядзення. Я лічыў, што трэба стварыць спецыяльную групу са складу гісторыкаў, этнографаў, філосафаў, паліталагаў, якая б на сур'ёзнай аснове правяла даследаванне на тэрыторыі Беларусі памянёных праблем. Неўзабаве я атрымаў водгук на ліст. А паколькі напісаў, што сам згодны ўзяць удзел у даследаваннях, мяне запрасілі на сустрэчу ў Камісію па нацыянальнай палітыцы Вярхоўнага Савета. Тады мне і прапанавалі непасрэдна заняцца вывучэннем гэтай галіны жыцця грамадства. І хаця я пэўны час разважаў — усё ж складана пераходзіць з выкладчыцкай працы на чыноўніцкую, — у рэшце рэшт згадзіўся і пайшоў працаваць у парламенцкую камісію.

Паралельна я займаўся і вывучэннем рэлігійнай тэматыкі, таму што яна блізкая да нацыянальнай. Дарэчы, канфлікты на рэлігійнай глебе — таксама вельмі страшная з'ява, але яшчэ страшнейшыя, калі накладваюцца на нацыянальныя. Гэта мы зараз назіраем у Косаве. Адбываецца, як я гэта называю, сацыяльны ядзерны выбух: знішчаецца эканоміка, гаспадарчая інфраструктура, разбураецца культура, сацыяльная галіна, з'яўляюцца чалавечыя ахвяры.

Працуючы ў камісіі Вярхоўнага Савета, займаўся праектамі законаў "Аб нацыянальных меншасцях", "Аб замежных грамадзянах і асобах без грамадзянства". Да гэтага ў камісіі быў падрыхтаваны закон "Аб грамадзянстве". Такім чынам, было вельмі цікава ўдзельнічаць у законатворчым працэсе. Тады я пазнаёміўся з кіраўнікамі ўсіх нацыянальна-культурных таварыстваў, якія ёсць у нашай краіне. Відавочна, займаючыся гэтымі праблемамі, я не мог не пачаць цікавіцца становішчам нашых суайчыннікаў за мяжой. Гэта супала са станаўленнем беларускай дзяржаўнасці на новым этапе гісторыі. Рыхтуючы закон "Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь", зразумела, мы павінны былі цікавіцца, як жывуць беларусы ў далёкім замежжы, а таксама ў новых незалежных дзяржавах. Мы сталі вывучаць заканадаўчую базу абароны іх інтарэсаў і правоў. Так я непасрэдна заняўся праблемамі беларусаў за мяжой, вывучаў хвалі эміграцыі, іх асаблівасці і прычыны. Дарэчы, калі параўнаць старую эміграцыю ў ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, краінах Лацінскай Амерыкі, то там ужо змянілася некалькі пакаленняў. Там беларусы стварылі свае асяродкі, у іх больш-менш развітая інфраструктура, а вось землякі, якія засталіся ў краінах былога СССР пасля 1991 года, трапілі ў значна горшае становішча. Асабліва гэта адчувальнае ў сярэднеазіяцкіх і каўказскіх рэспубліках, у зонах канфліктаў. Адначасова нас цікавяць не толькі беларусы па нацыянальнасці, але і выхадцы з нашай краіны, якія лічаць Беларусь сваёй айчынай.

У 1993 годзе міжнацыянальныя праблемы з заканадаўчай га-

(Заканчэнне на 2-й — 3-й стар.).

ЮБІЛЕЙ



*Заслужаная артыстка Беларусі, актрыса тэатра і кіно, выканаўца народных песень Тацяна МАРХЕЛЬ адзначае сваё 60-годдзе. Шырокаму колу гледачоў актрыса вядомая перш за ўсё як выканаўца галоўных ролей у тэлефільмах і тэлеспектаклях "Сымон-музыка", "Новая зямля", па прыкметных работах у мастацкіх стужках "Людзі на балоце", "Подых навальніцы", "Радаўніца" і інш.*

# ТАЛЕНТ, УЗГАДАВАНЫ РОДНАЙ ЗЯМЛЁЙ



## Тыдзень: Фотафакты. Падзеі.



Дзевятнаццаць аўтобусаў Мінскага аўтамабільнага завода адпраўлены ў студзені ў Санкт-Пецярбург. Узамен у беларускую сталіцу паступяць два электрапаязды для мінскага метрапалітэна.

*На здымку: генеральны дырэктар МАЗа Валянцін ГУРЫНОВІЧ перадае дакументы на эксплуатацыю аўтамабіляў.*



У Брэсце праходзіць дзіцячая выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — трэцяя па ліку, арганізаваная гарадскім Домам дзіцячай і юнацкай творчасці. На ёй прадстаўлены 160 работ школьнікаў — ткацтва, мяккая цацка, вышыўка, малюнак.

*На здымку: удзельнікі тэатральнага гуртка Жэня КАЗУСІК і Кірыл МІЦКЕВІЧ прадстаўляюць вырабы равеснікаў.*



Асобай любоўю ў загадчыка кафедры батанікі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта Уладзіміра ФЯДОТАВА карыстаюцца лімоны. Іх ён вырошчвае і ў сваёй кватэры, і ў службовым кабінеце.

**Фотахроніка БелТА.**

# Аляксандр БІЛЫК: «БЕЛАРУСЫ Ў ЛЮБОЙ КРАІНЕ СВЕТУ ПАВІННЫ АДЧУВАЦЬ ЦЯПЛО РАДЗІМЫ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ліны перамясціліся ў сферу практычнага выканання. У Савеце Міністраў быў створаны сектар па пытаннях рэлігіі, нацыянальных меншасцей, беларусаў замежжа. Мяне запрасілі туды на працу. Потым праз некаторы час быў арганізаваны Каардынацыйны савет па нацыянальных меншасцях, дзе я быў адказным сакратаром. Яшчэ пазней з'явілася патрэба ў стварэнні асобнага органа, які займаўся б праблемамі беларусаў замежжа. Калі праводзілася рэарганізацыя сістэмы кіравання ў пачатку 1997 года, было вырашана рэарганізаваць Савет па справах рэлігій пры Савеце Міністраў у Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей, які я і ўзначаліў. Праўда, у самым пачатку 90-х гадоў я нават не мог разлічваць, што ўсё так адбудзецца. Вось такая перадгісторыя.

**— Па тым, як развівалася ваша кар'ера, можна прасачыць і дынаміку росту цікавасці і ўвагі дзяржавы да праблем нацыянальных адносін: ад камісіі да дзяржкамітэта, які існуе ўжо два гады. З якімі набыткамі прыйшлі да другой гадавіны?**

— Вельмі добра, што мы ў свой час не адмахнуліся ад гэтых праблем, хаця, здавалася б, у нас няма глебы для абвастрэння міжнацыянальных канфліктаў. Між тым, па даных перапісу 1989 года, у Беларусі пражывалі прадстаўнікі 123 нацыянальнасцей. 22,1 працэнта насельніцтва, ці амаль кожны пяты грамадзянін, з'яўляліся прадстаўнікамі "нетытульных" нацыянальнасцей. Зразумела, мы сёння гаворым пра гэта ў мінулым часе, бо за апошнія дзесяцігоддзе адбыліся значныя змены. Сацыялагічныя даследаванні паказваюць тэндэнцыі да павелічэння долі небеларусаў. З Міністэрствам працы мы падтрымліваем трывалыя сувязі і адсочваем патокі міграцыі. Калі людзі едуць, у тым ліку і беларусы, з Казахстана ці Таджыкістана, гэта азначае, што не вельмі камфортна яны адчуваюць сябе там. Падчас перапісу насельніцтва, які будзе праводзіцца ў Беларусі ў лютым гэтага года, мы пастараемся вывучыць нацыянальную структуру нашага грамадства. Многія ехалі і едуць у Беларусь да гэтага часу толькі таму, што тут больш спакойна. Парадаксальна, але некаторыя нават згодны жыць у зоне адсялення Чарнобыльскай АЭС. Такім чынам, нам трэба вучыцца на памылках іншых і задоўга папярэджваць магчымае негатыўнае развіццё падзей. Таму стварэнне Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей адпавядала патрэбам часу і скіравана на каардынацыю намаганняў дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый у справе забеспячэння правоў прадстаўнікоў нацыянальных супольнасцей.

**— Як фарміруецца дзяржаўная палітыка ў галіне супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай? На якіх прынцыпах яна грунтуецца?**

— Беларуская дзяржава абвясціла і рэалізуе дэмакратычныя прынцыпы сваёй нацыянальнай палітыкі, якія замацаваны ў заканадаўстве і адпавядаюць міжнародным стандартам у гэтай сферы. Беларусь далучылася да 29 асноўных міжнародных канвенцый, пактаў, пратаколаў, якія звязаны з правамі чалавека. Падпісаны і выконваюцца каля 60 міжнародных, міжурадавых і міжведамасных пагадненняў, дагавораў па пытаннях адукацыі, навукі, культуры, інфармацыі, абароны правоў асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцей. Дарэчы, гэтыя і многія іншыя дакументы склалі першы ў Беларусі зборнік дакументаў аб нацыянальна-культурным развіцці нацыянальных супольнасцей на Беларусі, які падрыхтаваны і выдадзены нашым камітэтам. На рэспубліканскім і мясцовым узроўнях дзейнічаюць больш за 200 аб'яднанняў грамадзян 17 нацыянальнасцей. У двух словах складана расказаць пра шматбаковую дзяржаўную падтрымку нацыянальна-культурных аб'яднанняў, аб усіх праграмах і мерапрыемствах, адукацыйна-моўных структурах, выданнях і творчых здзяйсненнях. Шчыра магу сказаць, што я шчаслівы чалавек, бо ва ўсіх гэтых справах браў непасрэдны ўдзел. І я радуюся, што цікавасць у дзяржаве да спраў жыцця нацыянальнасцей развіваецца з нарастаючым вынікам. Сёння, акрамя ўсяго іншага, дзейнічае Цэнтр нацыянальных культур. Зараз мы ствараем фонд "Свята Радзімы", які за кошт пазабюджэтных сродкаў будзе аказваць дапамогу беларусам замежжа, садзейнічаць станаўленню і развіццю іх інфраструктуры. Таму мы хадайнічаем, каб бізнесменам, якія будуць адлічваць у фонд невялікі працэнт ад прыбытку, на што некаторыя згодныя, прадстаўляліся пэўныя льготы. Гэта, зразумела, не азначае, што дзяржава перакладвае на іх плечы свае турботы, проста дзяржаўных сродкаў заўсёды не хапае для задавальнення існуючых патрэб дыяспары. Таксама збылася мая мара, якая зарадзілася яшчэ з часоў Вярхоўнага Савета, адносна фестывалю нацыянальных культур. Ужо іх прайшло два, зараз мы рыхтуемся да трэцяга. 27 лютага ён пачнецца з вёсачак, райцэнтраў і фінішуе ў 2000 годзе. Цяпер ён будзе ўсебеларускім, мы плануем запрасіць да ўдзелу беларускія калектывы замежжа, каб фестываль адыграў і ролю адзінства народа. Я перакананы, што няма больш надзейнага шляху да дасягнення мэты, чым маленькія, але сістэмныя крокі наперад, бо адразу нічога не даецца.

У нашай дзейнасці існуюць і свае прыярытэты. Напрыклад, створана асобная праграма падтрымкі беларусаў у Польшчы. Прыярытэтам застаецца Прыбалтыка, а таксама краіны СНД. Што і гаварыць, у той жа Расіі жыве амаль паўтара мільёна беларусаў. Таму самая галоўная задача мінулага года была стварыць сістэму трывалых узаемаадносін з прадстаўнікамі дыяспары, двухбаковага інфармавання. Мне здаецца, што цяпер размова ўжо не ідзе пра дробязі, а пра першы вопыт работы дзяржаўнай сістэмы падтрымкі дыяспары, у якой ёсць пэўныя задачы: першачарговыя, сярэднечарговыя і з далёкай перспектывай. Таму мы лічым, што цяпер беларусы замежжа адчулі, што ёсць сур'ёзная каардынуючая арганізацыя.

Увогуле, узаемаадносіны дзяржавы і дыяспары можна параўнаць з адносінамі бацькоўскага дому, сям'і са сваімі дзецьмі, у якіх розныя характары і якія жывуць у розных краінах свету, але ж маюць адны карані. Аб'ядноўвае іх любоў да Радзімы. У сваю чаргу, дзяржава клапоціцца пра сваіх суайчыннікаў, садзейнічае захаванню беларускай культуры за мяжой. Сведчанне таму — Дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце", якая дзейнічае з 1993 года. Паводле яе міністэрствы, дзяржаўныя ўстановы, грамадскія арганізацыі аказваюць значную падтрымку ў нацыянальна-культурным развіцці нашых суайчыннікаў. Адна з задач нашага камітэта — кантроль і каардынацыя выканання гэтай праграмы. Вялікая ўвага надаецца стварэнню грунтоўнай юрыдычнай базы і рэальнага механізма для ажыццяўлення правоў і законных інтарэсаў беларусаў за мяжой. У 1997 годзе мной ад імя беларускага ўрада было падпісана пагадненне аб абароне правоў асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцей, з Рэспублікай Малдова. Зараз завяршаецца праца над аналагічнымі пагадненнямі з Украінай, Расіяй і Літвой. А гэта азначае, што правы беларусаў у гэтых

**ЮБІЛЕЙ**

# ТАЛЕНТ, УЗГАДАВАНЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

І хаця лічыцца не зусім добрым тонам, калі гады жанчыны становяцца вядомыя ўсім, мы ўсё ж не скрываем іх. Бо, па-першае, — актрыса зусім не выглядае на свае гады, а па-другое — у ёй столькі аптымізму, жыццёвых сіл, што яна маладзейшая за іншых маладых. А ідзе гэтае, відаць, ад яе арганічнасці, суладдзя са светам і сабой і адчуваецца ў шматлікіх ролях простых жанчын, што сыграны актрысай на сцэне акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску і на працягу апошняга дзесяцігоддзя ў Тэатры беларускай драматургіі ў Мінску.

Дарэчы, яе простыя гераіні далёка не спрошчаныя асобы, нават тады, калі драматургічны матэрыял, з якім працуе актрыса, іх так прадстаўляе. Мо адсюль і ўзнікае іншы раз адчуванне, што за кадрам засталося нешта вельмі істотнае і цікавае, недагаворанае. Па вялікаму рахунку, Тацццяну Маркель рэжысёры і драматургі яшчэ па-сапраўднаму не ўбачылі, не адкрылі, а значыць, і мы, гледачы, таксама. Хаця першы крок у гэтым напрамку ўсё ж зроблены: надзвычай адметны і таленавіты тэатральны рэжысёр Мікалай Пінігін на сцэне Тэатра беларускай драматургіі спецыяльна для Тацццяны Маркель паставіў спектакль па матывах "Новага Запавету", батлеечнага прадстаўлення "Цар Ірад", беларускіх абрадава-каляндарных песень "Дзіця з Батлеема". І няма нічога дзіўнага, што гэты даволі камерны спектакль так любімы гледачом усе два гады з дня прэм'еры.

Тая гадзіна, пакуль ідзе сцэнічнае дзейства, пагружае нас у свет простых ісцін, у непахісную гармонію быцця — дзе час у час кідаецца ў глебу зерне, а затым надыходзіць пара жніва. Дзе ўсё ўзаемазвязана: прыход у жыццё чалавека, само яго жыццё і адыход з прадвечным кругаваротам прыроды. Бо "што было, тое і будзе, што адбывалася, тое і будзе адбывацца, і няма нічога новага пад сонцам". Дык ці варта гаварыць, што мінулае было лепшым за сённяшняе?

Дзіўнае адчуванне ад спектакля: быццам у храме пабываў, душой ачысціўся. Камернасць яго як нельга лепей таму садзейнічае. На сустрэчы, усяго тры дзеючыя асобы на





*Супрацоўнікі Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей.*

дзяржавах будуць больш абароненымі. Сёлета пачнецца праца над распрацоўкай праекта закона "Аб суайчынніках, якія пражываюць за мяжой".

Намі падрыхтаваны рэгіянальныя праграмы аказання дапамогі ў культурна-нацыянальным развіцці беларусаў Польшчы, Расіі, Украіны, краін Балтыі. Асноўныя накірункі працы — падпісанне міжурадавых пагадненняў і стварэнне культурных цэнтраў, помнікаў беларускім дзеячам гісторыі і культуры, развіццё беларускамоўных школ у замежжы, працяг працы над энцыклапедычным даведнікам "Беларусы ў свеце", правядзенне навуковых канферэнцый. Вялікую ўвагу плануецца надаць і інфармацыйнаму забеспячэнню арганізацый беларускай дыяспары.

**— На ваш погляд, якім патэнцыялам валодаюць беларусы замежжа? Ці можа краіна разлічваць на нейкую дапамогу з іх боку ў адказ?**

— На працягу двух стагоддзяў з Беларусі выехала шмат таленавітых і адукаваных людзей. Многія з іх жывуць у эканамічна развітых краінах. Таму я лічу, што нам абавязкова трэба выкарыстоўваць патэнцыял дыяспары ў галіне эканомікі, яе дзелавыя, культурныя сувязі ў краінах пражывання. Нагадаю практыку ўзаемадзеяння з дыяспарамі ў Арменіі, Украіне, Літве, Польшчы, Ізраілі. Яны паўсюдна ствараюць лепшыя ўмовы для міжнароднага гандлю, эканамічнай дапамогі. Безумоўна, мы хацелі б мець з нашымі суайчыннікамі канструктыўнае супрацоўніцтва, сумесныя планы ў сферы развіцця культуры і асветы. Дарэчы, стварэнне фонду "Святло Радзімы" — адзін з канкрэтных крокаў у гэтым накірунку. Беларусы ў любой краіне павінны адчуваць цяпло і апеку Радзімы.

**— Не сакрэт, што беларусы замежжа па-рознаму ставяцца да падзей, якія адбываюцца ў Бацькаўшчыне. Ці ёсць сёння магчымасць аб'яднаць дыяспару, не дапусціць расколу ў асяроддзі выхадцаў з Беларусі, напрыклад, на палітычнай глебе?**

— Так, пэўная частка нашых суайчыннікаў сапраўды раз'яднаная па ідэалагічных, палітычных і нават рэлігійных матывах. Значны гістарычны перыяд Беларусь не мела сваёй дзяржаўнасці, таму ранняя эміграцыя адносіла сябе да палякаў, рускіх, украінцаў. Больш позняя, нацыянальна арыентаваная эміграцыя, не магла прымірыцца з гэтым. Многія беларускія арганізацыі за мяжой не могуць да гэтага часу знайсці паразумення паміж сабой у адной краіне знаходжання. Таму нас шчыра радуе, што апошнім часам з'явіліся аб'яднальныя тэндэнцыі. У той жа Расіі беларусы хочуць правесці аб'яднальны з'езд. Падобная ідэя вітае на Украіне. Нядаўна прыехалі беларусы з Малдовы: яны ўпершыню селі за агульны стол і вырашылі аб'яднацца. Мне здаецца, гэта будзе садзейнічаць умацаванню нацыі. Тым не менш, мяркую, складана аб'яднаць дыяспару на тым жа палітычным падмурку. Таму трэба шукаць тое, што задавальняе і аб'ядноўвае ўсіх. Гэта культура, адукацыя, захаванне нацыянальных традыцый. Мы павінны ўсвядоміць, што больш важнай мэтай застаецца захаванне беларускай прысутнасці ў свеце. Кансалідацыя нацыі патрэбна дзеля стварэння квітнеючай Рэспублікі Беларусь — раўнапраўнага члена сусветнай супольнасці.

Гутарку вёў
**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# РОДНАЙ ЗЯМЛЁЙ

сцэне — Таццяна Мархель, апавядальнік і выканаўца песень, батлейка (цудоўна выкананая Валерыем Рачкоўскім) з лялькамі-акцёрамі і Уладзімір Пузыня, які суправаджае ўсё дзейства ігрой на ўласна ім зробленых цудоўных інструментах. І немагчыма сказаць, хто з іх галоўны — знімі аднаго, і ўсё рассыплецца, як картачны домік. Толькі ў неабходны момант нехта "ўзбуйняецца", выходзіць на першы план, быццам высвечваецца свечкай, што прымацавана да дзверкі батлейкі, ці промнем месяца, што блукае па зорках...

Батлейка — храм... Відаць, спрадвечна ў батлейцы прысутнічала гэта. І не толькі таму, што адлюстроўвала яна новазапаветную гісторыю жыцця, распяцця і ўваскрэсення Ісуса Хрыста. У храм чалавек прыносіў і свае радасці, гора, турботы, просячы аб дапамозе і дзякуючы за ўдачы, ніспасланыя яму. Ці не таму і ў батлеечным дзействе гісторыя Хрыста перамяжалася фрагментамі мясцовага жыцця-быцця? Як бы там ні было, а ў спектаклі батлеечны домік вянчае купал — макаўка з крыжам.

У адным з інтэрв'ю Таццяна Мархель сказала: "Мы складзены вякамі..." І, сапраўды, гэтую повязь да канца немагчыма парушыць, разарваць. Яна адчуваецца, нагадвае аб сабе, калі нехта звяртаецца да нашай душы, як гэта зроблена ў спектаклі "Дзіця з Батлеема".

**Маргарыта СТАРЫХ.**

**Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.**

**СУВЯЗІ**

# *ГУМАННАЯ СПРАВА ІРЭНЫ КАЛЯДЫ*

Зусім нядаўна я расказвала на старонках газеты аб аздараўленні беларускіх дзяцей у Славеніі, а таксама аб вядомай нашай землячцы Ірэне Калядзе, якая была фундатарам гэтай паездкі. Спадарыня Ірэна Каляда стрымала сваё слова — яна зноў зрабіла нашым дзецям падарунак, але цяпер ужо калядны, таму што адпачынак адбыўся падчас Калядных свят.

На гэты раз група была поўнасцю скамплектавана з дзяцей, якія жывуць у горадзе Мазыры Гомельскай вобласці, які да гэтага часу захаваў нядобрую памяць Чарнобыля. Хлопчыкі і дзяўчынкі ў групе былі адабраны з тых сямей, якія ў нас называюцца сацыяльна незабяспечаныя. Іх выхоўвае альбо адна маці, альбо адна бабуля. Напрыклад, у Руслана Бурынскага маці пазбаўлена бацькоўскіх правоў, дзяцей чацвёра, а выхоўвае адна цётка. У Віталя Флерка бацька памёр, а маці нідзе не працуе. Дарэчы, хлопчыкі вельмі разумныя і выхаваныя. А дзве сястры Каця і Ліза Калінько, у якіх памерлі бацька і маці, жывуць з бабуляй. Дзяўчынкі таленавітыя, прыгожыя, спяваюць, танцуюць, удзельнічаюць у фестывалях і святах. Саша і Вова Гаркуша, Артур Дворык, Каця Лілюк, астатнія дзеці жывуць у падобных сем'ях.

Тры тыдні прайшлі вельмі хутка. Экскурсіі па Славеніі, сустрэчы з дзецьмі ў сярэдняй школе, што знаходзіцца ў мястэчку Харвацін. Аднагодкі хутка пасябравалі, разам спявалі беларускія песні, чыталі беларускія і славенскія вершы. У калядны вечар дзеці звычайна загадваюць жаданні — пра новыя цацкі, сукенкі ці падарожжы да мора. А ў гэтых дзяцей мары крыху іншыя — каб дома быў дабрабыт.

Кіраўнік групы Ніна Віхор — прыроджаны настаўнік. Выкладчыца беларускай мовы і літаратуры, яна любіць свой родны край і гэтаму ж вучыць дзяцей. І тут яна распрацавала выдатную праграму — з конкурсамі, гульнямі, заняткамі, на якіх многа расказвала аб гісторыі Беларусі, народных традыцыях, фальклоры.

Самым памятным днём было свята — Каляды. У гэты дзень вечарам дзецям падавалі беларускія стравы, а пасля пры запаленых свечках плылі хвалюючыя гукі песні "Малітва", якую спявалі Надзя і Вольга.

"Божа, адвядзі ад Беларусі здраду, вераломства і вайну...
Божа, захіні маю радзіму мудрасцю, спакоем і цяплом...."

Ад гэтых пранікнёных слоў не адны толькі дарослыя ўпотайкі выціралі слёзы...

Вяртаючыся назад, дзеці шкадавалі толькі аб адным — як хутка прайшоў час. Думаю, што гэтая паездка застанецца ў іх памяці на ўсё жыццё. А самае галоўнае — пасля такога адпачынку ў іх менш праблем са здароўем.

Вельмі добрую справу распачала спадарыня Ірэна. Хачу дадаць, што аздараўленне дзяцей — толькі адзін з накірункаў яе працы.

**Ніна ПЕТУХОВА.**

**ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ**

# Валянцін ДУДКЕВІЧ:
# «З ФАЛЬКЛОРАМ НЕ ЎСЁ ТАК ПРОСТА»

*Так ужо атрымліваецца, што чыста вонкавых папулярных прыкмет беларускай нацыянальнай адметнасці не так ужо многа: традыцыйная бульба, славутая "памяркоўнасць", "жалезныя коні" па мянушцы МТЗ і МАЗ, сіні-сіні лён, чыстая-чыстая Нарач, паважаныя ў многіх мясцінах "Песняры" і, вядома ж, народнае мастацтва — фальклор. Аднак апошнім часам падзеі развіваюцца не толькі імкліва, але і непрадказальна, у выніку чаго сённяшняя абвальная дэвальвацыя закранула і гэтыя, яшчэ нядаўна, здавалася, непахісныя сімвалы: беларуская бульба страчвае не толькі ў якасці, яле і ў колькасці, памяркоўнасць, здараецца, абарочваецца супраць яе ж носьбітаў, усё больш цяжка дзесьці "прыстроіць" нашых "жалезных коней", лён сінее ўсё больш не на палях, а ў вершах і песнях, у "чыстай-чыстай" Нарачы купацца іншы раз проста небяспечна для здароўя, а "Песняроў" цяпер ужо ці то некалькі, ці то зусім няма... Ну а як ідуць справы ў той галіне, дзе балем кіруюць народная музыка, песні і танцы? Відаць, нядрэнна, калі меркаваць па тым, што на канцэртах "Харошак" ці Дзяржаўнага ансамбля танца практычна заўсёды аншлаг.*

*Памагчы праясніць сітуацыю мы папрасілі чалавека, які не па чутках ведае народнае мастацтва, чыё творчае жыццё сілкуецца гэтым мастацтвам. Ён прафесіянал з вялікай літары. Наша сённяшняя гутарка з кіраўніком Дзяржаўнага ансамбля танца Валянцінам ДУДКЕВІЧАМ.*

**— Валянцін Уладзіміравіч, як сёння адчувае сябе калектыў які вы ўзначальваеце?**

— Самі разумееце, цяжкасці ва ўсіх — цяжкасці і ў нас, і ў першую чаргу, вядома, матэрыяльныя. Культура адлюстроўвае стан спраў у дзяржаве гэтак жа, як і эканоміка. Мы — бедныя да такой ступені, што калі дзе-небудзь бываем, саромеемся прызнацца, колькі атрымліваем за сваю работу. Дастаткова сказаць, што на сённяшні дзень зарплата маладога артыста балета эквівалентная 20 доларам у месяц. Праца кіраўніка, ён жа дырэктар ансамбля, аплачваецца прыблізна на ўзроўні паставога міліцыянера.

Калі гаварыць пра творчасць — выратоўвае энтузіязм маладых, менавіта ім цікава ўсё зведаць, паспрабаваць. "Дарослыя" артысты пачалі патроху пакідаць ансамбль — яно і зразумела: шукаюць месцы больш даходныя — трэба ж сем'і карміць.

Але за кошт новых і новых выпускнікоў вучылішча ансамбль усё ж пастаянна папаўняе састаў, і гэта дае магчымасць трымацца на добрым творчым узроўні. На жаль, атрымліваецца, што сваю моладзь мы нібыта падманваем: спачатку я завабліваю іх у "сеткі мастацтва", а потым аказваецца, што ў гэтых сетках, акрамя іх саміх, нічога больш няма — нават мелкай рыбінкі для харчавання. Думаю, падобная сітуацыя характэрная не толькі для нашага ансамбля.

Ну а чым растлумачыць энтузіязм старэйшага пакалення? Відаць, сілай прывычкі і... бязвыхаднасцю. З аднаго боку, нам ужо нібыта і дзецца больш няма куды, а з другога — ураслі ў гэтую справу душой і целам. Ансамбль для мяне і многіх маіх калег — не проста частка жыцця, гэта само жыццё. Тут наш другі дом... А можа быць — і першы...

Яшчэ нам дапамагаюць "трымацца на плаву" добрыя гастролі, у тым ліку зарубежныя: адна-дзве ўдалыя паездкі дазваляюць крыху паправіць эканамічныя справы: хаця б купіць адзенне... На зарплату не толькі гардэроб не абновіш, але і проста прахарчавацца праблематычна.

Летась пабывалі ў Бразіліі, Кітаі, Галандыі, ЗША. Павінен сказаць, цяпер і за мяжой выступаць стала складаней: прыкметна ўзмацнілася канкурэнцыя. Расія, Украіна "выплеснулі" тысячы аматарскіх фальклорных калектываў, якія гатовы працаваць дзе хочаш і як хочаш — на вуліцы, амаль бясплатна... У Беларусі, дарэчы, у параўнанні з іншымі, фальклорных калектываў не так ужо многа.

Што ж тычыцца нашага ансамбля танца, то мы ўстанавілі планку, ніжэй якой ніколі не дазваляем сабе апускацца. А таму працуем толькі там, дзе ёсць добрая прафесіянальная сцэна — у асноўным гэта тэатры. Могуць быць яшчэ спартыўныя комплексы. Нашы гастролі досыць выбарныя, мы звычайна ездзім да адных і тых жа людзей. Хутка зноў будзем працаваць у Галандыі — у Амстэрдаме, у вельмі буйным еўрапейскім тэатры "Карэ". У такіх тэатрах спектаклі распісваюцца на некалькі гадоў наперад. І хаця ў Галандыю паедзем ужо чацвёрты раз, у "Карэ" трапляем упершыню.

**— Атрымліваецца, фальклор карыстаецца поспехам...**

— Ведаеце, з фальклорам не ўсё так проста. Я на гэтую тэму вельмі многа разважаў. У традыцыю нашага фальклору закладзены пралеткультаўскія ідэі: прафесіянальнае мастацтва адамрэ і яго заменіць аматарскае. Падобны падыход нарадзіў вялікую колькасць самадзейных калектываў. Фальклорнымі такія самадзейныя групы можна назваць толькі ўмоўна, таму што ніякага ўкладу ў развіццё фальклору яны не ўнеслі. Звычайна гэта была няўдалая копія прафесіянальных нумароў.

Тым не менш, у нас у Бе-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## Валянцін ДУДКЕВІЧ:

# «З ФАЛЬКЛОРАМ НЕ ЎСЁ ТАК ПРОСТА»

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

ларусі існавала фальклорная лабараторыя танца ў Інстытуце культуры, якой кіравала прафесар, доктар навук Юлія Чурко, дзе і я атрымаў істотную дапамогу. Вось там вялася сур'ёзная работа. Чурко і яе студэнты выязджалі ў экспедыцыі: спрабавалі захапіць той мізер, што застаўся, — танцавальны фальклор, як правіла, захоўваецца вельмі дрэнна. Некаторыя пошукі лабараторыі пазней трансфармаваліся ў творы нашага ансамбля: "Вясковыя гульні", "Кадрыля на зэдліках". Тады ж узнікла і некалькі рэгіянальных цэнтраў (яны, дарэчы, існуюць і да гэтага часу), дзе фальклору ўдзяляецца ўвага як у плане знаходак, так і распрацовак.

Цяпер, лічу, з'явілася рэальная магчымасць крыху разабрацца ў сітуацыі. На сённяшні дзень, па маім меркаванні, у Мінску ёсць два калектывы, якія займаюцца танцавальным фальклорам на высокім узроўні — "Харошкі" і мы. Танцавальная група Народнага хору нядрэнная, але там усётакі танец не асноўная дзея.

Мы з "Харошкамі" ідзем рознымі накірункамі. Мой пункт гледжання заключаецца ў наступным: сам па сабе фальклор — не мастацтва. Фальклор, асабліва аўтэнтычны, — музей, і ён павінен ўтрымлівацца "музейна", дзе ўсе ўзоры — сапраўдныя. Як толькі фальклор выносіцца на сцэну — абавязковым становіцца прысутнасць аўтара, у сілу ўступаюць усе сцэнічныя, драматургічныя законы з завязкай, развіццём сюжэта, кульмінацыяй, развязкай... На сцэне з'яўляецца аўтарскі твор, створаны на базе фальклору. Калі гаворыць: мы ўбачылі гэта ў нейкай вёсцы і перанеслі на сцэну — няпраўда. Прыкмецілі нейкі прыём, а потым пастаноўшчык прапусціў усё праз сваю галаву, інтэрпрэтаваў убачанае — так.

Ведаю, што я не адзінокі ў такім меркаванні. Многія кіраўнікі фальклорных калектываў думаюць прыблізна гэтак жа. Таму будучыню ансамбля я мог бы пазначыць наступным чынам — тэатр народнага танца, ці фолкбалет.

**— Валянцін Уладзіміравіч, які сэнс, змест укладваеце вы ў паняцце "народнасць мастацтва", у прыватнасці, і вашага, танцавальнага?**

— З майго пункту гледжання, народнасць мастацтва — увогуле заблытаная ідэя. Справа ў тым, што чалавек, знаходзячыся ў пэўным асяроддзі, і творыць пэўным чынам. Жывучы ў Беларусі, я не магу ствараць тое і так, як мой калега ў Амерыцы. Кожнаму з нас асяроддзе пражывання і акружэнне дыктуюць свае ўмовы. Народнасць, хочаш ты гэтага ці не, — у табе самім і сілкуе цябе пастаянна, таму прапаведаваць ты будзеш тую культуру, што ўвабраў з малаком маці. У мастака "народнасць" — у вобразах роднай прыроды, пэўных тыпах людзей, з якімі ён сустракаецца штодзённа. У нас — гэта танцавальная культура, тое, што падгледзелі дзе-небудзь побач. І ўсе свае нумары мы ствараем па сюжэтах, сітуацыях, знаёмых нам з дзяцінства.

Што тычыцца формулы "мастацтва для народа" — мне яна здаецца няправільнай. Думаю, сапраўднае мастацтва заўсёды ствараецца — для сябе. Калі мастака самога задавальняе тое, што ён робіць, гэта будзе падабацца і іншым. І ўвогуле, што значыць "для народа"? Для якога ўзроўню? Моцарт ствараў для ўзроўню курфюрста. Яго творчасць народная? А, можа, патрэбны ўзровень натоўпу? Гэта ўсё розныя рэчы. У асноўным тое, што засталося ў гісторыі мастацтва, стваралася "для сябе".

Што тычыцца фальклору, то нярэдка яго атаясамліваюць з вясковым мастацтвам. І чым глыбей у глухую вёску, напрыклад, у Палессе, у балоты, закапаемся, тым больш сапраўднае што-небудзь знойдзем. Але ж Беларусь была не стопрацэнтнай вясковай краінай: існавала гарадская культура, арыстакратычная, паралельна ішлі, скажам, частушкі і раманс. Менавіта да гэтых пластоў звярнуліся нашы калегі — "Харошкі".

Для сябе ў ансамблі мы ўжо вывады зрабілі і вызначыліся ў выбары далейшага шляху. Дзве нашы апошнія прэм'еры — таму сведчанне. "Паланез" Агінскага — гэта, безумоўна, частка нашай культуры. Мы падрыхтавалі сур'ёзны драматычны твор на музыку Агінскага ў інтэрпрэтацыі нашага кампазітара Сяргея Хвашчынскага: уявілі так, як гэта разумеем, нашымі творчымі сродкамі, сітуацыю, калі ў выніку няўдалага паўстання з тэрыторыі Беларусі пакаціласа хваля эміграцыі.

І яшчэ адзін новы нумар — "Ефрасіння". Тут паспрабавалі аб'яднаць некалькі розных, але ў нечым родныясных сімвалаў і ідэй: ад вобраза Божай Маці да імкнення людзей да падвіжніцтва, асветы, духоўнага адраджэння.

**— Пакуль яшчэ можна ездзіць у экспедыцыі і збіраць нешта з народнай творчасці. Але ці не атрымаецца так, што ўжо сёння мы шкрэбаем лыжкай па дне, падбіраем рэшткі ранейшых запасаў? Ці, можа, народная творчасць, фальклор — багацце, якое ўзнаўляецца, і праз 20—30 гадоў зноў знойдзецца што "назбіраць"?**

— Не, нічога такога, як сёння, ужо не знойдуць. Ёсць гісторыя старадаўняя, новая, найноўшая. Так што будуць чэрпаць верхні слой — з найноўшай гісторыі, у значнай ступені асіміляваны, але, думаю, досыць своеасаблівы. Бо ў кожнага народа свая душа, свой менталітэт. І, інтэгруючыся ў сусветную культуру, мы ўсё роўна нясем туды нешта сваё.

**— Хто ж можа стаць асноўным носьбітам фальклору ў будучыні?**

— Асобы. Усю інфармацыю будуць захоўваць энтузіясты і асобы. Заўсёды знойдзецца чалавек, які нешта шукае, збірае, стварае музеі, як птушка: пяро да пяра — і гняздо гатова. Такая работа не бывае масавай.

Гутарку вяла **Галіна УЛІЦЁНАК.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# СТАРЭЙШАЯ ЖЫХАРКА СТРЭШЫНА

— А ў нас падзея, — паведамілі нам са Стрэшына, — стогадовы юбілей мясцовай жыхаркі Кацярыны Панамаровай. Будзе час, наведайцеся да яе ў госці...

Так мы і зрабілі. Праз некалькі дзён наша рэдакцыйная машына спынілася ля сядзібы Кацярыны Харытонаўны. Насустрач выйшла сама гаспадыня. Яна трымалася за кіёк, але ступала па зямлі ўпэўнена. Заўважыўшы, што мы пры гэтым неяк збянтэжыліся, прамовіла:

— Ды вы не глядзіце, што я тут расхадзілася, на самай справе ногі ўжо вельмі баляць.

— А што ж, — умяшалася ў нашу размову адна з дачок Кацярыны Харытонаўны, — прахадзіць сто гадоў, і каб ногі пры гэтым не балелі.

Так менавіта са здароўя і пачалася наша размова. Вельмі ж нямногім дадзена лёсам дажыць да свайго стогадовага юбілею. Напэўна, для гэтага трэба мець і сапраўды нейкі асаблівa моцны арганізм.

— Ды не, — пачулася ў адказ. — Нічым асаблівым наша мама не вызначылася. Хутчэй за ўсё, што "зверху" ёй наканавана лёсам дажыць да такога ўзросту. І нішто гэтаму не здолела перашкодзіць: ні голад, ні вайна, ні цяжкая хвароба, калі ў 85-гадовым узросце была зроблена складаная аперацыя і ўрачы прадракалі сумны зыход.

А гэты самы смяротны прысуд Кацярыне Харытонаўне жыццё магло вынесці не раз, вельмі ж неспакойнае стагоддзе выпала ёй. Гэта і рэвалюцыі, і войны. Да таго ж жыццё беларусаў і без таго салодкім назваць нельга было. Вось і Кацярыне Харытонаўне з самага дзяцінства давялося звedаць жорсткія жыццёвыя выпрабаванні. Ужо ў дванаццацігадовым узросце, калі ад тыфу памерлі маці і бацька, — яна стала дарослай, бо засталася самай старэйшай у сям'і.

Напэўна, не трэба нікому даказваць, што жыццё ў сірот (усяго іх налічвалася чацвёра дзяцей) было нялёгкім. Праўда, адны яны не засталіся, бацькоў ім замяніў родны дзед Ананій, але сапраўднай бацькоўскай цеплыні ўжо не было.

У 1920 годзе Кацярына Харытонаўна выйшла замуж за цудоўнага вясковага хлопца Алімпія, змяніла сваё дзявочае прозвішча Дзяружэнка на цяперашняе. Зразумела, побач з любімым чалавекам па жыцці ісці лягчэй, але з'явіліся новыя праблемы, клопаты, перажыванні. Звязана гэта было ў першую чаргу з дзецьмі, якіх у Панамаровых нарадзілася аж васьмёра. Трое з іх памерлі яшчэ ў дзяцінстве, а астатнім пяці сёстрам — Таісе, Ганне, Марыі, Веры і Любові той жа жыццёвы лёс падрыхтаваў нямала выпрабаванняў. Ды ўдвая цяжэй за ўсіх было маці. Здаралася ў вайну, калі ў хаце не было ні кавалачка хлеба, сядзе яна разам са сваімі малымі дзецьмі і спявае, каб такім чынам заглушыць у іх пачуццё голаду. Наспяваецца, а потым ідзе за хату, каб ніхто не бачыў, і доўга плача.



Пасля заканчэння вайны, калі пачынала наладжвацца мірнае спакойнае жыццё, лёс прыпаднёс Кацярыне Харытонаўне чарговае выпрабаванне — у адносна маладым узросце памёр муж. Зноў жанчына засталася за старэйшую ў сям'і.

Няспынная праца на ўласным падвор'і, у калгасе — вось што бачыла Кацярына Харытонаўна на працягу доўгіх дзесяцігоддзяў. А ў тым жа калгасе яна была з моманту яго заснавання. Працавала сумленна, не адмаўлялася ні ад якой работы, даглядала і быкоў, якія ёй не раз адтоптвалі ногі.

Ды толькі Кацярына Харытонаўна ні на што не скардзіцца сення, разважае проста: пражытыя гады не вернеш, а што будзе заўтра, дык паглядзім. А дзень сённяшні гэтай жанчыны суцяшае прысутнасць дачок, ёсць, канешне, і ўнукі, падрастае маленькі праўнук Аляксей. Ды яшчэ і родная 90-гадовая сястра жыве ў Жлобіне...

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

*На здымку: старэйшая жыхарка Стрэшына Кацярына ПАНАМАРОВА.*

**Фота Аляксандра ШАЙНОВА.**

ПОСТАЦІ СЛАВУТЫХ ПРОДКАЎ

# ТАМАШ МАКОЎСКІ — ПЕРШЫ

*Алесь МАРЦІНОВІЧ.*

НА АБАВЯЗКУ службы Тамашу даводзілася часта пакідаць Нясвіж. Такая праца каморніка: на адным месцы шмат не высседзіш. Таму нямала ездзіў Макоўскі па Вялікаму княству Літоўскаму, неаднаразова бываў і ў іншых краінах. Але гэтыя паездкі звычайна не выходзілі за межы яго непасрэдных абавязкаў: каморнік жа, іншымі словамі кажучы, землямер. А да ўсяго, калі з'яўлялася тэрміновая неабходнасць перасланаць якія-небудзь матэрыялы, ён таксама кіраваўся ў блізкую ці далёкую дарогу. І даўно звыкся з такім вандроўным лёсам. Хоць асабліва ў захапленні не быў ад пастаянных паездак, але і не вельмі наракаў, што часта даводзіцца пакідаць дом.

Няўкрутка дала знаць пазней, калі захапіўся гравюрай. Маляваў і раней, аднак прызнаваўся ў гэтым хіба самым блізкім сябрам. Іншая справа гравюра. І клопатаў болей, ды і хочацца давесці пачатае да канца. А значыць — трэба мець у запасе не адну турботную гадзіну, каб перавесці малюнак на медную дошку. І лепей, калі прыходзіць натхненне, не пераліняць увагу на нечым іншым, пабочным.

Адлучацца даводзілася не на дзень і не на два. Таму ўсё похапкам і похапкам. А гэта і на якасці работ сказвалася, ды і нервавала. Дзякуй Богу, князь Мікалай Крыштоф Радзівіл, пры двары якога і працаваў Макоўскі, нарэшце звярнуў увагу на яго захапленне. Нехта сказаў яму, што каморнік мае і занятак для душы. Спачатку, калі князь выклікаў да сябе, Тамаш спалохаўся. Чаго добрага, угневаецца князь, прагоніць. Ды Сіротка распытаў пра ўсё, уважліва выслухаў, а пасля Макоўскі пачуў такое, у што і паверыць не мог:

— Бяру я цябе ў друкарню... Пабудзеш колькі часу звычайным друкаром, а пасля пагледзім, на што здатны.

Пакланіцца б Тамашу пасля пачутага, падзякаваць Радзівілу (не часта надараецца, каб так нечакана лёс павярнуўся ў лепшы бок), а ён стаяў моўчкі, няўцямна пазіраў на Мікалая Крыштофа і слова ад хваляння вымавіць не мог. Нібы мову адняло. А Сіротка зразумеў усё, толькі ўсміхнуўся ды прамовіў напаследак:

— Што доўга гаварыць! Пераходзь у друкарню.

Толькі цяпер Тамаш апамнуўся, дзякаваць пачаў. А Радзівіл:

— Атрымаецца друкаром, магчыма, і іншую працу падшукаю табе.

Пасля Макоўскі доўга разважаў над гэтымі апошнімі словамі Мікалая Крыштофа. І чым далей думаў, тым больш ні да чаго пэўнага не прыходзіў. Якую яшчэ працу меў на ўвазе князь? Хоціць яму, Тамашу, і таго, што ў друкарню перавёў.

Таму і працаваў так, каб не сорамна было Радзівілу ў вочы глядзець. Але не толькі з-за гэтага стараўся. Поруч жа працавалі вопытныя друкары, хацелася іх не падвесці. А Сіротка пра свайго "хрэсніка" не забываў. Наведваючы друкарню, заўсёды падыходзіў, цікавіўся, як працуецца. А аднойчы запытаўся:

— Ты, мабыць, чуў, Тамаш, што я кнігу напісаў, у якой расказаў пра сваю паездку на Блізкі Усход і ў Афрыку...

Чаму ж было не чуць, калі ўжо не адзін год у двары толькі і гаварылі і пра саму вандроўку Мікалая Крыштофа, і пра тое, што ў час паездкі ён зрабіў шмат запісаў. Сёетое праз трэція вушы даходзіла і ў друкарню. Пры гэтым, як звычайна, пэўная гісторыя паступова абрастала такімі падрабязнасцямі, якіх у сапраўднасці і не было. Ды ўсё адно цікава паслухаць апавядальніка, які прызнаваўся, што пачуў гэта ад таго, каму, мабыць, даводзілася гутарыць з людзьмі, якім пра паездку апавядаў сам князь.

— Чуў, Ваша Высокасць, — паспяшаўся запэўніць Мікалая



СА СТАРОГА КУФРА



## МАСТОЎСКІЯ СТРОІ

Традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Панямонні. Бытаваў ў XIX — пачатку XX стагоддзяў пераважна ў Мастоўскім, Шчучынскім і Зэльвенскім раёнах. Жаночы гарнітур складалі кашуля, спадніца з цёмна-сіняй даматканкі, кроеная з 6 кліноў, або андарак з 4 прамавугольных полак (чырвона-малінавага колеру ў вузкія гарызантальныя разнаколерныя паскі), белы або цёмны фартух, аздоблены фальбонамі і карункамі, катанка (накштал кофты) з белага ці шэрага валенага сукна, абляваная чорным аксамітам. Галаўныя ўборы жанчын — каптур, даматканая ці крамная хустка, упрыгажэнні — каралі, стужкі, крыжыкі. Мужчынскае адзенне істотных мясцовых адрозненняў ад іншых строяў Панямоння не мела. Вопратка была белая або шэрая світа, кажух.

Падрыхтаваў да друку **Дзяніс РАМАНЮК.**

# Рыгор КОБЕЦ: «ЗА МНОЙ НЯМА ВІНЫ. БУДЗЬЦЕ І ВЫ СУМЛЕННЫМІ...»

***У Доме літаратара прайшла вечарына, прысвечаная сотым угодкам вядомага беларускага пісьменніка, драматурга і кінасцэнарыста Рыгора Кобеца (сапраўднае прозвішча Сандыга Міхаіл Мусіевіч, 1898—1990). Праўда, сто год Р. Кобецу было 12 ліпеня, але па розных прычынах юбілей прайшоў толькі напрыканцы года. Шмат зрабіла для ўвекавечвання памяці Р. Кобеца яго дачка Алена Кобец-Філімонава — беларуская пісьменніца. Гэтая мужная жанчына доўгі час дабівалася, каб добрае імя яе бацькі і яго творчасць былі належным чынам ушанаваны. Рыгор Кобец заслужыў гэта сваім трагічным, поўным небяспекі жыццём, сваёй таленавітай творчасцю.***

**Алесь ЧЭЧАТ**, *выкладчык Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа № 1.*

* * *

Нарадзіўся Р. Кобец у г. Елісаветградзе 12 ліпеня 1898 года. Яго бацька Мусій Сандыга — беларус па паходжанні — апынуўся ў гэтым горадзе ў пошуках работы. Тут прайшло дзяцінства будучага пісьменніка, тут ён вучыўся спачатку ў рамесным, а потым і ў рэальным вучылішчы. Калі пачалася імперыялістычная вайна, уцёк на фронт, быў паранены ў 1916 годзе ў Галіцыі. Падчас рэвалюцыі захапіўся ідэямі анархізму: актыўна ўдзельнічаў у руху анархістаў з 1917 па 1921 год. Служыў у Чырвонай Арміі, з конніцай Будзённага дайшоў да Варшавы, дзе быў зноў цяжка паранены. Пасля бунту анархістаў Елісаветграда супраць савецкай улады давялося ратавацца, бо за такое бальшавікі па галаве не гладзілі. Так у 1921 годзе апынуўся на радзіме бацькі ў Беларусі. Працаваў у Мінску рабочым-качагарам, адначасова вучыўся па вечарах у рабочым тэхнікуме. Але спакою не было: баючыся, што карныя органы даведаюцца пра яго анархічнае мінулае, праз нейкі час (1928 год) памяняў сваё прозвішча, імя і імя па бацьку з Сандыгі Міхаіла Мусіевіча на Кобеца Рыгора Якаўлевіча. Цікавы факт з біяграфіі Р. Кобеца: калі ў маі 1928 года Максім Горкі вяртаўся з эміграцыі ў Савецкі Саюз, то на станцыі Негарэлае яго ад імя рабочых Беларусі прамовай вітаў Рыгор Кобец.

Спрабаваць сілы ў літаратуры пачаў яшчэ ў Елісаветградзе ў 1918 годзе. Але па-сапраўднаму талент пісьменніка раскрыўся на Беларусі. Яго вершы, апавяданні, фельетоны на рабочую тэматыку з 1923 года часта з'яўляюцца на старонках "Звязды", "Чырвонай змены", часопіса "Маладняк" і іншых выданняў. Быў сябрам творчага аб'яднання "Маладняк", а пасля яго ліквідацыі ўваходзіў у БелАПП. Вялікую вядомасць Рыгору Кобецу прыносіць яго першы драматычны твор пра рабочы клас Беларусі "Гута" (1929), прэм'ера твора прайшла ў 1930 годзе на сцэне БДТ-1. У 30-я гады з'явілася п'еса "На заставе".

Цяпер, акрамя спецыялістаў-літаратуразнаўцаў ды мастацтва-знаўцаў, ужо, відаць, мала хто ведае, што Рыгор Кобец стаяў ля вытокаў беларускага кіно. Ён аўтар сцэнарыяў кінафільмаў "Двойчы народжаны" (1933) і "Шукальнікі шчасця" (1936). Гэта быў пачатак беларускага кінематографа. У 1935-м, калі адзначалася 10-годдзе беларускага кіно, Рыгору Кобецу і Анатолю Вольнаму, як першым прафесійным кінасцэнарыстам, надалі званне заслужаных дзеячаў мастацтваў Беларусі.

Баючыся за сваё анархічнае мінулае і адчуваючы, што рана ці позна будзе выкрыты НКУС, Рыгор Кобец ідзе на прыём да старшыні СНК БССР М. Галадзеда з пакаяннай заявай. Той, выслухаўшы Рыгора Якаўлевіча, сказаў:

— Спакойна жывіце, працуйце, таварыш Кобец, і нічога не бойцеся.

Праз нейкі час, у 1936 годзе, пастановай НКУС СССР Рыгор Кобец быў амнісціраваны.

Але прыходзяць страшныя 1936—1938 гады, калі махавік сталінскіх рэпрэсій набраў ход і вынішчыў лепшых сыноў Айчыны. Быў арыштаваны абаронца Р. Кобеца М. Галадзед і многія тысячы дзяржаўных і культурных дзеячаў Беларусі. У 1936 годзе арыштаваны і асуджаны на 8 год пазбаўлення волі сябар Р. Кобеца Станіслаў Шушкевіч, у 1937-м быў расстраляны яго калега і сябар Анатоль Вольны. У 1938 годзе, калі Рыгор Кобец быў у творчай камандзіроўцы ў Бірабіджане, "хапун" прыйшоў і па яго. Без падстаў абвінавацілі ў шпіянажы на карысць ажно трох дзяржаў — Польшчы, Англіі і Японіі. Праўда, праз год апраўдваюць, але ненадоўга, бо ў 1942-м у Хабараўску Асобай нарадай ён быў асуджаны на 10 гадоў лагераў за "непачцівыя адносіны да асобы Іосіфа Сталіна".

Амаль 22 гады на мяжы жыцця і смерці ў турмах, лагерах, ссылцы. Цяжкая, знясільваючая праца на лесапавале, на будаўніцтве чыгункі, паўгалоднае існаванне на вечным пасяленні ў кіргізскім стэпе. У лістах, якія ён пісаў дачцэ Алене, а таксама старэйшаму сыну на фронт, Рыгор Якаўлевіч гаворыць аб сваім трагічным лёсе: "Я не раз стаяў пад расстрэлам, пражыў цяжкае, поўнае небяспекі жыццё, але заўсёды імкнуўся быць сумленным чалавекам. За мной няма віны. Будзьце і вы сумленнымі, добрымі, чэснымі людзьмі..." Пакутаваў, як і мільёны людзей, без віны вінаваты. Беларусь, яе людзі, прырода сніліся, мроіліся, клікалі да сябе. Толькі ў 1960 годзе пісьменнік змог вярнуцца ў Мінск. У той час яго можна было сустрэць на вуліцах горада. Каларытны гэта быў чалавек: высокі, з рыжаватай, кранутай сівізной чупрынай, пышнымі вусамі. У гады застою яго зноў упарта не прызнаюць, творы не друкуюць, нават адбіраюць персанальную пенсію, прызначаную як заслужанаму дзеячу мастацтваў Беларусі. А ён жа член трох творчых саюзаў краіны — Саюза пісьменнікаў, Саюза кінематаграфістаў і Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі!

І ў гэты нялёгкі час Рыгор Кобец шмат працаваў, хоць, ой, як гэта цяжка — пісаць у стол! У 1967 годзе напісаў "Аўтабіяграфію", крыху раней — аповесць "Ноеў каўчэг" (1964).

У апошнія гады пісьменнік часта і падоўгу хварэў, жыў у сям'і дачкі Алены Кобец-Філімонавай. Памёр Рыгор Кобец 9 верасня 1990 года і пахаваны на Паўночных могілках сталіцы.

Такія вось асноўныя вехі яго жыццёвага і творчага шляху.

* * *

На вечарыне быў прыгаданы трагічны лёс пісьменніка, добрымі словамі ўшанавана яго асоба, усё, што ён зрабіў для развіцця беларускага кінамастацтва і літаратуры.

На гэтым мерапрыемстве прысутнічалі тыя, хто добра ведаў Рыгора Кобеца: пісьменнікі, дзеячы мастацтваў. Была і моладзь, у асноўным навучэнцы Мінскага педагагічнага каледжа № 1, студэнты-філолагі БДУ і педагагічнага універсітэта.

Верыцца, што будзе зроблена ўсё, каб імя Рыгора Кобеца было належным чынам ушанавана, а яго творчая спадчына выдадзена і стала набыткам не толькі спецыялістаў, а і настаўнікаў, студэнтаў.

# КАРТОГРАФ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Крыштофа Макоўскі, — чаму ж не чуць, калі пра вашу паездку толькі і гавораць усе...

— Дык гэтую кнігу я закончыў і збіраюся выдаваць.

— У Нясвіжы? — карцела запытацца Тамашу, але ён добра ведаў, што ў падобных выпадках лепш памаўчаць, каб не трапіць у няёмкае становішча.

І правільна зрабіў, нічога не запытаўшы, бо пэўнасць унёс сам Сіротка:

— Можна было б, канешне, і дома надрукаваць...

Памаўчаў... Відаць, разважаў, гаварыць усё ці не... Урэшце вырашыў быць адкрытым да канца:

— Дома нават прасцей... Але разумееш... Канешне, кнігу я па-польску напісаў, але хацелася б, каб з ёю пазнаёміліся ва ўсім свеце. І тым самым пра нашу краіну даведаліся. І што мы ў Вялікім княстве Літоўскім не нейкія дзікуны, а і падарожнічаць можам, іншымі землямі цікавімся. А ў Еўропе, — працягваў Мікалай Крыштоф, — вялікае распаўсюджанне мае лацінская мова. Таму я падшукаў перакладчыка, Томаша Трэтара, а друкаваць кнігу будзем за мяжой, у Брунсбергу...

Тамаш слухаў уважліва, але ніяк не мог даўмецца, чаго гэта Сіротка так спавядаецца перад ім. Не таму ж, што знайшоў у ім удзячнага субяседніка.

А Мікалай Крыштоф:

— Нябось здзіўлены, навошта расказваю?

Макоўскі памкнуўся нешта сказаць наконт таго, што ўжо адна ўвага яго Высокасці да простага чалавека вельмі шмат значыць, але Сіротка і слова не даў яму прамовіць:

— Не збірайся нешта тлумачыць, я наскрозь бачу цябе... А прыйшоў я...

Князь памаўчаў...

— Прыйшоў да цябе, што твая дапамога мне патрэбна.

— Мая? Дапамога? — Тамаш не мог далей маўчаць. — Але чым я магу князю дапамагчы, калі кніга будзе друкавацца не ў Нясвіжы?

— Чым? Няўжо не ведаеш? А хацеў бы я, каб менавіта ты ўзяўся за яе афармленне... Ці мо якія іншыя пільныя справы ў цябе ёсць?

Адчуваючы, што Мікалай Крыштоф ставіцца да яго прыязна і добразычліва, Макоўскі вырашыў на жарт адказаць жартам:

— Спраў, канешне, шмат, але калі Ваша Высокасць просіць, дык адмовіць не магу.

На тым і спыніліся... А ў хуткім часе Тамаш змог пазнаёміцца з рукапісам. Кніга ўразіла яго, але ён разумеў, што багата ілюстраваць яе не зможа. Мікалай Крыштоф расказваў пра землі яму, Тамашу, невядомыя, пра загадкавых жывёл, пра дзіўныя расліны. Каб намаляваць гэта, трэба пабачыць усё на ўласныя вочы. Але такой магчымасці яму, зразумела, ніхто не дасць.

Заставалася карыстацца малюнкамі іншых, каб па-свойму іх пераасэнсаваць. Макоўскі хацеў было папрасіць у Радзівіла якія-небудзь выданні пра Блізкі Усход і Афрыку, але князь вырашыў усё па-свойму...

10 ліпеня 1600 года Макоўскі ехаў у той самы Брунсберг, дзе павінна была друкавацца кніга Мікалая Крыштофа Радзівіла "Пэрэгрынацыя...". Сіротка вырашыў, што лепш будзе, калі Макоўскі возьмецца за яе афармленне на месцы, пагутарыўшы з выдаўцом.

Так і зрабілі. Праўда, каб не павялічваць выдаткі, адмовіліся ад шматлікіх ілюстрацый. Макоўскі пачаў афармленне тытульнага ліста, а Трэтар вырашыў сам намаляваць партрэт Мікалая Крыштофа. Але, паколькі талентам ён у дасканаласці не валодаў, выява Сіроткі ў авальнай рамцы і ў пышным княжацкім адзенні атрымалася даволі пасрэднай.

А вось Макоўскі дасягнуў поспеху, засяродзіўшы ўвагу на мэце паездкі Мікалая Крыштофа. Для тытульнага ліста ён выгравіраваў на медзі выяву Іерусалімскага храма, аздобіўшы яе рамкай. Тым самым і заявіў аб сабе як гравёр.

...НАКОНТ года нараджэння Макоўскага ў даследчыкаў пэўнасці няма. Не ўдалося гэта дакладна ўстанавіць і І. Якубоўскаму, аўтару кнігі "Тамаш Макоўскі — гравёр і картограф нясвіжскі", выдадзенай у Варшаве ў 1923 годзе. Нічога дакладнага не могуць сказаць і сучасныя навукоўцы, таму звычайна называецца 1562 ці 1575 год.

Розніца, як відаць, у датах даволі значная. Але, калі мець на ўвазе, што пачатак гравёрскай дзейнасці Макоўскага адносіцца да 1601 года, дык абедзве яны могуць быць годам нараджэння.

Не выклікае сумнення і верагоднасць першай. Яна сведчыць на карысць таго, што перш чым заняцца друкарскай, а пазней гравёрнай справай, Макоўскі доўга працаваў каморнікам. Нельга пагадзіцца з меркаваннем І. Якубоўскага, што Тамаш вучыўся ў Гданьску. Калі б у яго была належная адукацыя, наўрад ці стаў бы ён землямерам. Тым больш, што меў схільнасць да малявання.

Бліжэй да ісціны В. Шматаў, калі сцвярджае, што нясвіжскі гравёр, друкар і картограф хутчэй за ўсё паходзіў з простых сялян. А таму не меў сродкаў вучыцца і на ўсё жыццё застаўся самавукам. Праўда, Шматаў не канкрэтызуе, дзе тыя сяляне маглі пражываць. Магчыма, былі і тутэйшыя, бо прозвішча Макоўскі на Беларусі даволі распаўсюджанае.

Колькі гадоў Тамаш працаваў каморнікам — таксама невядома. Але мабыць трэба пагадзіцца, што недзе да канца XVI стагоддзя. У гэтым выпадку неабходна "ісці" ад 1600 года, калі Тамаш паехаў у Брунсберг. Заўважаны ён і па-сапраўднаму ацэнены Мікалаем Крыштофам мог быць не адразу — мінімум некалькі гадоў павінен быў папрацаваць на пасадзе друкара.

На карысць падобнага меркавання сведчыць і тое, што ў пачатку наступнага, XVII стагоддзя, Макоўскі кіраваў Нясвіжскай друкарняй.

Прафесійны рост, канешне, адбыўся па дзвюх прычынах. Па-першае, Макоўскі цудоўна зарэкамендаваў сябе як друкар, а па-другое, Радзівіл застаўся задаволены афармленнем сваёй кнігі і вырашыў, што Тамаш прынясе значна больш карысці, калі пачне працаваць там, дзе зможа найлепш праявіць свае здольнасці.

(Працяг будзе).

НОВАЕ ПРА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

# «ПОДЫХ ЮНІ ЎХОДЗЯЧАЙ МАЁЙ...»

*Заканчэнне гутаркі журналісткі Галіны ШАБЛІНСКАЙ з Музай СНЯЖКО, аднакурсніцай і сяброўкай юнацтва Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА*

— Давайце паспрабуем перайсці да літаратуры. І, мажліва, так: успрыняцце Караткевіча-чалавека, з якім звязвала вас жыццё, і ўспрыняцце Караткевіча-літаратара — праз яго творы вамі, вашымі вачамі?

— Гэтае пытанне цікавае, але складанае. Складанае тым, што калі яго задаюць, то чакаюць навуковага адказу з пункту гледжання эпохі, часу, значнасці пісьменніка і г. д. Я не гісторык літаратуры, не літаратурны крытык. Мне Караткевіч дарагі як аднакурснік, як сябар. Мог жа лёс абысціся інакш, і мы б увогуле не сустрэліся. Але жыццё нас моцна звязала, і я рада гэтаму.

Я ведала Валодзю ў розныя перыяды яго станаўлення, у тым ліку і як пісьменніка. Толькі не ўспрымалася гэта тады як нейкія вехі. Спачатку — студэнцтва, спроба сябе ў творчасці. І такіх, як ён, было шмат, і мы на гэта сур'ёзна не рэагавалі. Потым я ўбачыла ў ім чалавека, які шукае сябе і бясконца пераадольвае перашкоды. Часам нават здавалася, што гэтыя перашкоды ён сам сабе стварае. Але не. Ён проста не мог саграшыць супраць ісціны, супраць прынцыпаў, якія вызначыў для сябе. Калі стала зразумела, што ён будзе пісаць — усялякія яго непрыемнасці таксама сталі зразумелымі. У сапраўднага пісьменніка не толькі свой адметны стыль пісьма, але і свае незалежныя погляды на жыццё. Пасля першых публікацый Валодзі стала відавочна: ён не настаўнік, не літаратуразнаўца. Ён пісьменнік — вялікі і сур'ёзны.

— Вы расказалі хутчэй пра псіхалогію ўспрыняцця росту творцы, а як стыль, як аўтарскі стан і пачуццё? У чым бачыцца вам іх адметнасць?

— Першы зборнік вершаў "Матчына душа" Валодзя мне падараваў (даслаў па пошце). Тады не толькі я, але і яго калегі-пісьменнікі не ведалі яго як празаіка. І ў далейшым, па словах А. Адамовіча, спрачаліся, хто пераможа ў Караткевічу: паэт ці празаік? Ніхто не ўгадаў. Я думала, што ўсё-такі ён — паэт. А потым з'явіліся яго аповесці, раманы, сцэнарыі, публіцыстыка. І ён для мяне паступова раскрыўся. Як ні дзіўна, але ў кожным новым творы я спазнавала самога Валодзю. Быццам у радках ён пакідаў штосьці сваё. Героі, сітуацыі, нават нейкія асобныя дэталі нагадвалі мне наша рэальнае жыццё (хаця я звычайна не чытаю так мастацкую літаратуру).

Асабліва мяне ўзрушыла "Чазенія". У ёй прачытваўся стан надлому, які тады перажываў Валодзя. Адчувалася, што не ўсё так проста і гладка ў яго лёсе. Між іншым, Валодзя не любіў гаварыць пра сваю творчасць (колькі я ні спрабавала распытваць яго): ні пра тэмы, ні пра задумы, ні пра рукапісы. Ён з дзіўнай лёгкасцю пазбягаў падобных размоў. Гэта таксама стыль асобы, стыль пісьменніка.

Прачытаўшы штосьці з яго твораў, мы з мужам разважалі, гаварылі пра герояў, але ўвесь час помнілі, што напісана гэта Караткевічам. У яго цудоўны стыль. Яго не зблытаеш ні з кім іншым. Мне вельмі блізкія жаночыя вобразы ў творах Валодзі. Падабаецца, як тонка і псіхалагічна апісвае ён стан прыроды. Менавіта яе стан. Мне лёгка чытаць яго кнігі. І разам з тым вельмі складана. Бо увесь час адчуваеш: гэта ж Ка-рат-ке-віч пісаў! Такое ўражанне, быццам ён у цябе недзе ўнутры сядзіць. І ты міжволі суперажываеш з ім. Бачыш яго. Калі я, напрыклад, чытаю Васіля Быкава ці Алеся Адамовіча, то зусім не думаю, хто аўтар і як гэта ўвязваецца з іх жыццём. А чытаючы Караткевіча, увесь час лаўлю сябе на тым, што шукаю паралелі.

Дарэчы, калі выйшаў поўны збор твораў Валодзі ў Беларусі, я прывезла кнігі ў Кіеў. І давала чытаць нашым аднакурснікам. Каму спадабаліся больш "Каласы пад сярпом тваім", каму — "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", каму — паэзія. Але ўсе прызналі ў Караткевічу пісьменніка, вялікага майстра слова.

Мова Караткевіча сакавітая, каларытная. Кожнае слова адточана. Я не ведаю яго творчага працэсу. Толькі мне чамусьці здаецца, што ўсё пісалася само па сабе, калі ўжо было вынашана. І таму магу ўявіць, чаго каштавала яму бачыць рэдактарскую ці цэнзурную праўку сваіх тэкстаў. Я чытала Караткевіча па-беларуску, па-руску, па-ўкраінску. Безумоўна, найвялікшая асалода — гэта кнігі Караткевіча на мове арыгінала.

І яшчэ мяне заўсёды здзіўляла яго дакладнасць і акуратнасць у дэталях. Помню сваё ўражанне ад аповесці "Чазенія". Яна мне вельмі спадабалася. Я звярнула ўвагу на апісанне прыроды. І пры сустрэчы спытала ў Валодзі, адкуль у яго такія літаральна прафесійныя веды. Ён мне адказаў, што ўсё гэта вывучыў, калі быў на Далёкім Усходзе: сваімі нагамі абхадзіў, на свае вочы пабачыў, рукамі памацаў. Водгукаў на аповесць прыйшло шмат самых розных, але спецыялісты не зрабілі яму ніводнай заўвагі.

— Муза Яўгенаўна, і можа яшчэ раз вернемся ў ваша студэнцтва, ужо дзякуючы першай аповесці Караткевіча "У снягах драмае вясна", якая выйшла асобнай кніжкай у нас у 1989 годзе. І беларускі чытач пазнаёміўся з ёю толькі пасля смерці аўтара. Рукапіс перадала ў выдавецтва "Юнацтва" сястра пісьменніка Наталля Сямёнаўна. Як успрынялі гэты твор вашы аднакурснікі? Як прачыталі яго вы самі — зноў жа па асацыяцыі з рэальным жыццём і біяграфіяй?

— Каб зразумець, чаму і як ствралася гэта аповесць, хачу працытаваць самога Караткевіча. У адным з лістоў А. Назарэўскаму ён піша: "Наступная задума — раман пра універсітэт. (Верасень 1957 г."). А праз месяц зноў гэтая тэма: "Шмат гора перанёс я і мае сябры ў Кіеве ў тыя праклятыя гады... І ўсё ж яны назаўсёды застаюцца нам дарагімі".

Канешне, то быў крык душы, перапоўненай перажытымі ўражаннямі, эмоцыямі, падзеямі. Валодзя выспеў духоўна для напісання такога твора, але, напісаўшы, не надрукаваў. Адносіны да мінулых часоў у яго не змяніліся. Хутчэй яго не задавальняў мастацкі ўзровень аповесці. Калі б ён напісаў яе пазней — гэты твор мог бы аказацца іншым і па форме, і па аб'ёму, і па стылю. Раман пра курс напісаў яшчэ адзін наш аднакурснік, сябар Валодзі — Валянцін Ліннік. (Ён не быў надрукаваны). Магчыма, яны абменьваліся сваімі творчымі планамі. Не ведаю. Трэба шукаць у іх перапісцы. Абодвух, на вялікі жаль, ужо няма...

Калі "У снягах драмае вясна" выйшла, усім было цікава: а як жа мы там выглядаем?

— Рэакцыя аднакурснікаў — усяго толькі спазнаванне сябе?

— Безумоўна, не толькі. Хаця гэтая цікавасць напачатку была большая, чым да Караткевіча як пісьменніка. У гэтай аповесці ён яшчэ не сталы майстра, а студэнт, у якога пачуццям і думкам — цесна. Але ніхто не адзначыў, што ў нейкіх адзнаках Валодзя памыліўся ці нейкія падзеі паднёс няправільна. Адзін з нашых аднакурснікаў сказаў: "Цікава, але, мусіць, толькі для нас".

Хаця я з ім нязгодная. Праз дробязі студэнцкага жыцця ў кнізе адлюстравана грамадска-палітычная сітуацыя 50-х гадоў. Што, напэўна, цікава не толькі нашаму пакаленню. А нам, вядома, хацелася пазнаць на старонках кнігі калі не сябе, дык суседа па парце, сябра, сяброўку... Мне асабіста было вельмі цікава чытаць. Эпоха: як успрымаў яе Валодзя? Але я таксама па-свойму на яе рэагавала, я ў ёй жыла. Людзі, якія знаходзіліся побач. З усімі ў мяне склаліся пэўныя адносіны. А што ў кожным убачыў Валодзя?..

У аповесці ёсць лінія лірычная. Не ведаю прататыпаў. Магу толькі здагадвацца. Але, безумоўна, гэты вобраз і ўсё вакол яго — плён перажыванняў, аналізу і абагульнення аўтара. І наш сад, і веснавая пара, і не наша кватэра, і не наша імянінніца, і знаёмы і незнаёмы асяродак. Але адназначна, як цяпер кажуць, усё апісанае ацаніць нельга.

І яшчэ адзін цікавы момант адносна гэтага твора. Калі паспрабаваць правесці дыспут па ім (дыспуты былі модныя ў наш час, толькі назве не адпавядалі) з удзелам нашых аднакурснікаў, выкладчыкаў, то трэба пакінуць адно пустое крэсла і для Караткевіча. Чаму? Валодзя заўсёды прытрымліваўся сваіх перакананняў. І, дыскуціруючы па нейкіх спрэчных для нас фактах ці падзеях, мы павінны памятаць, што вось тут бы сядзеў Караткевіч і ўсё роўна абараняў сваю пазіцыю. А паколькі ён чалавек глыбокіх ведаў і ў яго няма павярхоўнасці ні ў чым, трэба думаць, чаму ён напісаў менавіта так. Зразумела, што аповесць ранняя. Але да яе варта ставіцца з усёй сур'ёзнасцю.

— І пытанне апошняе, Муза Яўгенаўна. Я разумею, час ідзе. Прайшло больш 10 гадоў, як не стала Уладзіміра Сямёнавіча. Што для вас гэта страта: сябра, чалавека, пісьменніка? Страта, якая на адлегласці, мажліва, яшчэ часцей нагадвае пра сябе... З чым на сёння вы засталіся?

— Без сябра, але з вельмі цёплымі ўспамінамі пра яго. Пасля Валодзевай смерці я пасябравала з яго сястрой Наталляй Сямёнаўнай і яе мужам Іванам Мікалаевічам, сем'ямі іх дзяцей — тымі, хто аблягчыў апошнія цяжкія гады яго жыцця. У іх прыемна бываць і згадваць. Можна пасядзець за Валодзевым пісьмовым сталом, узяць у рукі кнігі, якія ён чытаў, і тыя, што напісаў. Як пісьменнік — ён жывы і будзе жыць. Але гэта — для ўсіх.

...А тым летам у жніўні я збіралася з сям'ёй прыехаць у Мінск. Валодзя хацеў па-сапраўднаму пазнаёміць нас з Беларуссю, казаў, куды павязе і што пакажа.

...І тут вестка пра яго смерць. Як гром сярод яснага неба. Я на працы была, мне сын ператэлефанаваў. Госпадзі! Як жа так? Што рабіць? Як да Мінска дабрацца? Білетаў ні на самалёт, ні на цягнік няма. Званю Мішу Гальдштэйну — сябру Валодзі. Ён — яшчэ нейкаму агульнаму з Валодзем сябру. Дзякуй ім, дапамаглі...

Як стаяла ў сукенцы і чырвоным жакеце (не для такой жалобнай падзеі), так і села ў цягнік. У душы — правал, пачуццё страшэннай бездані, у якой знік чалавек. Чалавек, які мог бы яшчэ столькі зрабіць. І толькі ён... Вянок ад нашых аднакурснікаў... Словы развітаня... Столькі добрага пра сябе ён пры жыцці не чуў. А шкада. Магчыма, шмат што было б інакш. Але яго ўжо няма...

***

Травень 1995 года.



*Уладзімір КАРАТКЕВІЧ. 1981 год.*

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 48—52, 1998 г.
і ў №№ 1—5, 1999 г.

## ЭКСКУРС У МІНУЛАЕ

**• 1 лютага**
1913 год — нарадзіўся Сяргей Прытыцкі. Партыйны і дзяржаўны дзеяч, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў падполля і партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Яго імем названы плошча і вуліцы ў Мінску, Гродне, Баранавічах, Маладзечне.

**• 2 лютага**
1838 год — нарадзіўся Кастусь Каліноўскі. Беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, кіраўнік паўстання 1863—1864 гадоў на Беларусі і Літве. Зрабіў вялікі ўплыў на далейшае развіццё перадавой грамадскай думкі на Беларусі. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Гродне.

**• 4 лютага**
1746 год — нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавертура Касцюшка. Палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года ў Польшчы, Беларусі і Літве.
1808 год — нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Беларускі пісьменнік. Найбольш вядомы твор — "Пінская шляхта".

**• 5 лютага**
1965 год — на Беларускім аўтазаводзе ў Жодзіне пачата серыйная вытворчасць 27-тонных самазвалаў "БелАЗ-540".
1968 год — выпусціў першую прадукцыю (поліэтылен) Полацкі хімічны камбінат (з 1975 года ўвайшоў у вытворчае аб'яднанне "Полімір" у Полацку).

**• 7 лютага**
1498 год — Полацк атрымаў магдэбургскае права.

**• 9 лютага**
1852 год — прайшла першая пастаноўка ў Мінску оперы "Сялянка" на лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча, музыка С. Манюшкі і К. Кжыжаноўскага.
1913 год — у Вільні прайшла першая пастаноўка камедыі Янкі Купалы "Паўлінка".
1963 год — на Полацкім нафтаперапрацоўчым заводзе атрыманы першы бензін.

**• 10 лютага**
1868 год — нарадзіўся Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі). Беларускі пісьменнік, мастак і скульптар. Адзін з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады.

**• 11 лютага**
1807 год — нарадзіўся Напалеон Орда. Мастак-графік, кампазітар. Творчасць звязана з мастацкім жыццём Беларусі і Польшчы. Вандраваў па Беларусі, Украіне, Польшчы, Літве, рабіў замалёўкі мясцін, звязаных з жыццём знакамітых людзей.
1959 год — у Мінску адкрыўся Дзяржаўны цырк.

**• 15 лютага**
1931 год — нарадзіўся Георгій Паплаўскі. Беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1977). За афармленне кнігі Якуба Коласа "Новая зямля" атрымаў дыплом "Найпрыгажэйшая кніга свету" на конкурсе ў Лейпцыгу (Германія).

**• 16 лютага**
1925 год — у Мінску заснавана Цэнтральная бібліятэка АН Беларусі (з 1956 года — імя Я. Коласа).

**• 17 лютага**
1806 год — нарадзіўся Канстанцін Тышкевіч. Беларускі археолаг, гісторык, этнограф, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

**• 18 лютага**
1930 год — пачала дзейнічаць у Койданаве (з 1932 года — Дзяржынск) першая ў БССР машынна-трактарная станцыя.

**• 19 лютага**
1937 год — прынята Канстытуцыя Беларускай ССР. Заканадаўча замацавала перамогу сацыялізму, абвясціла сацыялістычны прынцып "ад кожнага па яго здольнасцях, кожнаму — па яго працы".

**• 20 лютага**
1925 год — адбыўся першы выпуск Беларускага дзяржаўнага універсітэта — 55 эканамістаў і юрыстаў.

**• 21 лютага**
1939 год — выйшла Пастанова СНК БССР аб стварэнні ў Мінску карціннай галерэі.
1978 год — у Мінску адкрыўся музей гісторыі войск Беларускай ваеннай акругі.

**• 22 лютага**
1913 год — у Пецярбургу членамі суполкі беларускіх студэнтаў была пастаўлена камедыя Янкі Купалы "Паўлінка".

**• 23 лютага**
1878 год — нарадзіўся Казімір Малевіч. Беларускі мастак, адзін з заснавальнікаў абстрактнага мастацтва — так званага супрэматызму ("Чорны квадрат", 1913).
1976 год — Беларускі аўтамабільны завод выпусціў першы серыйны 75-тонны самазвал.

**• 24 лютага**
1935 год — нарадзіўся Рыгор Барадулін. Народны паэт Беларусі (1992). Аўтар паэтычных зборнікаў, сатырычных і гумарыстычных твораў, вершаў для дзяцей.

**• 26 лютага**
1932 год — выйшаў першы нумар газеты "Літаратура і мастацтва".

**• 27 лютага**
1918 год — адбылося сумеснае пасяджэнне ЦВК Літоўскай ССР і ЦВК БССР. Быў выбраны ЦВК і СНК Літоўска-Беларускай ССР.
1925 год — у Мінску адбыўся першы Усебеларускі з'езд работнікаў сувязі.

**• 28 лютага**
1965 год — адкрыўся Міжнародны лейпцыгскі кірмаш, у якім прынялі ўдзел 13 прадпрыемстваў Беларусі. Аўтамабіль "БелАЗ-540" адзначаны залатым медалём.

Падрыхтаваў **Аляксандр ДЫНІКАЎ.**





# БЕЛАРУСКАЯ АМБАСАДА Ў ЛІТВЕ І КУЛЬТУРНЫЯ СТАСУНКІ

*Дзейнасць амбасады Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы надзвычай шырокая, таму я пастараўся закрануць у гутарцы з дарадцам па пытаннях культуры і адукацыі Уладзімірам СКАРАХОДАВЫМ толькі некаторыя яе аспекты. Але спачатку некалькі слоў пра гэтага чалавека.*

*Спадар Уладзімір Скараходаў мае даволі цікавую творчую біяграфію. Працаваць ён пачаў з 1958 года артыстам аркестра і дырыжорам у Магілёўскім драматычным тэатры. У 1963 годзе скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю імя Луначарскага. Каля 10 гадоў быў салістам сімфанічнага аркестра. Але, па ўласнаму прызнанню, увесь час не пакідала жаданне займацца выкладчыцкай дзейнасцю. І гэтую мару Скараходаў неўзабаве спраўдзіў: у музычным вучылішчы імя Глінкі працаваў выкладчыкам па класу кларнета, а потым прафесарам Беларускай акадэміі музыкі аж да самага ад'езду ў Літву. Тым не менш, гэта яму не перашкаджала паралельна займаць розныя кіруючыя пасады ў дзяржаўных установах. 14 з паловай гадоў ён працаваў у Міністэрстве культуры Беларусі. У 1981 годзе быў прызначаны на пасаду намесніка міністра культуры. Займаўся стварэннем Інстытута праблем культуры. І калі гэтая ўстанова нарадзілася, на пасадзе дырэктара каардынаваў яе дзейнасць сем з паловай гадоў. Больш за ўсё ўражвае, што і дагэтуль Уладзімір Скараходаў не страціў творчага запалу, энтузіязму. Па-ранейшаму яго прывабліваюць нестандартныя праекты, ідэі, непасрэдна звязаныя з культурнай прасторай.*

— Мы суседзі з Літвой, таму самой гісторыяй наканавана, каб нашы сувязі пашыраліся і мацнелі, — пачаў гутарку Уладзімір Скараходаў. — На жаль, за апошнія 10 гадоў наша культурнае супрацоўніцтва крыху звузілася. Абмен дасягненнямі мастацтва меў стыхійны характар. Таму, каб не было разарванасці ў творчых сувязях, варта мець не толькі міжурадавыя пагадненні, але і паміж установамі, арганізацыямі, творчымі саюзамі, дзеячамі культуры і мастацтва. Ужо ёсць дамоўленасці аб заключэнні пагадненняў паміж Літоўскай і Беларускай акадэміямі музыкі, Літоўскай і Беларускай акадэміямі мастацтваў, Літоўскім інстытутам культуры і мастацтва і Беларускім інстытутам праблем культуры, Нацыянальнымі бібліятэкамі і мастацкімі музеямі Літвы і Беларусі. Распрацавана праграма ўдзелу беларускіх і літоўскіх калектываў у прэстыжных фестывалях, конкурсах, аглядах, гастрольнай дзейнасці.

**— Спадар Уладзімір, лічыцца, што асабліва перспектыўнай у творчым абмене паміж краінамі можа быць тэатральная дзейнасць. На якім узроўні нашы адносіны ў гэтай галіне мастацтва?**

— Я не стаў бы звужаць спектр перспетывы на тэатральных калектывах. Без сумнення, тут ёсць вялікая прастора для супрацоўніцтва. Але ж, тым не менш, вакол агромністае поле дзейнасці. Да прыкладу, у сакавіку 1999 года ў Вільні плануецца выступленне Актэта салістаў канцэртнага эстрадна-сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь у зале Акадэміі музыкі Літвы. Будзем актыўна спрыяць рэалізацыі праекта па стварэнню даследчага і навуковага цэнтра "Калегія Стэфана Баторыя", што аб'ядноўвае універсітэты краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у тым ліку і Беларускі дзяржаўны універсітэт.

**— З вялікімі складанасцямі, на мой погляд, цяпер сутыкаюцца літаратары. З часу распаду Савецкага Саюза вельмі мала агульных семінараў, творчых вечарын. Не хапае інфармацыі аб кніжных навінках.**

— Так, бо мастацкае слова патрабуе мастацкага перакладу. У гэтым сэнсе іншым творцам нашмат лепей. Графіка, скульптура, акварэль, жывапіс маюць агульназразумелую мову. А літаратуру трэба падаваць адпаведным чынам. І ўсё ж тут таксама назіраюцца тэндэнцыі да паляпшэння сітуацыі. Нядаўна ў мяне прайшла сустрэча са старшынёй Саюза пісьменнікаў Літвы Валінцінасам Свенціцкасам, які пагадзіўся спаткацца са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімірам Някляевым. Сёння мы маем дамоўленасць аб сумесных праектах. Так, разам з Саюзамі пісьменнікаў і Асацыяцыяй беларусістаў Літвы рыхтуецца спецыяльны нумар часопіса "Полымя", дзе ў перакладах з літоўскай мовы можна будзе азнаёміцца з папулярнымі літоўскімі літаратарамі. І ў Літве адбудзецца спецыяльны выпуск ужо з перакладамі з беларускай мовы. Журы па адбору літоўскіх, беларускіх аўтараў, якія робяць пераклады, прадстаўнічае. У яго ўваходзяць старшыня Асацыяцыі беларусістаў Літвы Альма Лапінскене і вядомая беларуская пісьменніца Вольга Іпатава.

Ёсць і іншыя зрухі ў літаратурнай сферы. Так, Навагрудак наведалі старшыня камітэта сейма Літвы па навуцы, культуры і адукацыі Яцкунас Жыбартас і вядомы паэт Пятрас Палялёніс. А напрыканцы года ўжо наша дэлегацыя наведала Вільню.

**— Якія выставы беларускіх мастакоў апошнім часам былі арганізаваны ў галерэях Літвы?**

— Хацелася б, каб Саюзы мастакоў Літвы і Беларусі супрацоўнічалі больш актыўна. Сёння звычайна выстава нашага мастака арганізоўваецца па ініцыятыве галерэі або самога мастака. У Літве ёсць творчае аб'яднанне "Lasandr", якое даволі актыўна дапамагае мастакам з Беларусі.

Не так даўно ў Польскай галерэі прайшлі цікавыя выставы Алены і Ігара Бархаткавых, маладых мастакоў Эрнста Пешкава і Анжэлы Малашавай.

**— Ці не абарваліся сувязі паміж кінематаграфістамі нашых краін?**

— Вядома, не. Мяркуецца правесці кінафестывалі краін СНД і Балтыі. На Беларусі будзе ладзіцца V Міжнародны кінафестываль пад каардынацыяй Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі, Мінгарвыканкома і фестывальнай дырэкцыі Беларускага саюза кінематаграфістаў. Наша амбасада дапамагае ў адборы мастацкіх стужак на гэты фестываль. Спадзяюся, што ў 1999 годзе паміж Саюзамі кінематаграфістаў нашых рэспублік будуць падпісаны дамовы аб супрацоўніцтве.

**— Што яшчэ вас хвалюе ў адносінах паміж Беларуссю і Літвой?**

— Мы не можам быць абыякавымі да вялікай беларускай дыяспары ў Літве. На сённяшні дзень тут існуе 15 беларускіх суполак. З іх 13 аб'ядналіся ў Згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый пад патранажам Лявона Мурашкі. Дзейнасць тутэйшых беларусаў значная. Ужо прайшоў III фестываль беларускай песні ў Літве. Радасна на душы, што адбылося такое свята. Выдатна былі паказаны звычаі і абрады беларусаў. Правядзенню свята паспрыялі мясцовыя беларускія бізнесмены, Міністэрства культуры Літвы і Дэпартамент рэгіянальных праблем і нацыянальных меншасцей пры ўрадзе Літвы. Прэзідэнт Валдас Адамкус у сваім пасланні да фестывалю адназначна выказаўся — падзея!

**— Дзякуй за цікавую гутарку.**

Запісаў **Зміцер ВОЛКАЎ**.

## АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

* * *

Я, Алег Давідзюк, каардынатар Беларускага культурнага цэнтра КРОК, выказваю зацікаўленасць у атрыманні "Голасу Радзімы". Атрымліваю вашу газету апошнія чатыры гады. Не скажу, што быў задаволены, але змены ў апошні час выгляду газеты прыцягнулі да сябе ўвагу. Ну а нумар ад 17 снежня здзівіў і задаволіў. Калі газету пачнуць чытаць і нашы дзеці, то беларусы не знікнуць за межамі Бацькаўшчыны.

*Даведка.* Беларускі культурны цэнтр КРОК створаны ў Літве ў 1995 годзе. 5 пакояў — 120 квадратных метраў. За гэты час з'явіліся два мастацкія калектывы агульнай колькасцю 35 чалавек. Адкрыты 3 беларускія класы ў расійскай школе. Сваімі сіламі робім беларускія перадачы на мясцовым тэлебачанні і г. д.

Калі ласка, пры магчымасці высылайце газету для беларускіх класаў. Даю адрас настаўніцы беларускага класа **Таццяны ЛАТЫШОНАК: вуліца Статубінінку, 4-85, Вісагінас, Літва, 4761.**

* * *

Паважаная рэдакцыя!

Гэтым паведамляю, што апошні нумар "Голасу Радзімы" № 49 атрымаў перад Калядамі. Да таго часу газету атрымліваў рэгулярна, за што вялікае дзякуй. Кантакты з "Голасам Радзімы" пачаў у 1973 годзе. Астатніх нумароў газеты не атрымаў. Цікавіць мяне, чаму гэта так? Ці "Голас Радзімы" перастаў публікавацца, ці толькі высылаецца адпаведным людзям?

Было б пажадана атрымаць адказ.

З пашанай

*England.* **С. БУДКЕВІЧ.**

*7.1.99 г.*

**АД РЭДАКЦЫІ.**

Шаноўны спадар Будкевіч!

Дзякуем за пісьмо і навагодняе віншаванні. Ваша прозвішча і адрас застануцца ў спісе тых, хто будзе бясплатна атрымліваць газету "Голас Радзімы", як і ўсіх іншых чытачоў, якія адгукнуцца на наш зварот.

## МЕРКАВАННЕ

**Паважаная рэдакцыя!**

11 чэрвеня 1998 года ў "Голасе Радзімы" ў рубрыцы "З Віленшчыны" быў змешчаны допіс Леакадзіі Мілаш "Чалавек дзеі". Публікацыя прысвячалася 70-годдзю старшыні Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведару Нюньку. У ёй даецца справядлівая ацэнка яго шматгадовай дзейнасці, разгортваецца шырокая панарама заслуг юбіляра перад грамадствам. Усё гэта правільна.

АЛЕ.

Малюючы станоўча вобраз Хв. Нюнькі і ўзначальваемага ім таварыства, Л. Мілаш у той жа час спрабуе кінуць цень на іншыя беларускія грамадскія арганізацыі і іх кіраўнікоў, што, мякка кажучы, не адпавядае рэчаіснасці і здольнае ўвесці ў зман чытачоў, далёкіх ад праблем беларусаў Літвы.

Да прыкладу, Л. Мілаш піша (цытую): "Цяпер, у апошнія два гады, як грыбы, пачалі ўзнікаць розныя суполкі і іх кіраўнікі, хаця раней былі па розныя бакі "барыкад". Пра такіх людзей вельмі дакладна сказаў Янка Купала ў п'есе "Тутэйшыя" ў вобразе М. Зносака — прыстасаванцы. Хай застаецца гэта на іх сумленні".

На самай жа справе толькі Згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве, думка аб утварэнні якога, як прадстаўніча-каардынацыйнага органа, выношвалася некалькі гадоў, было зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі Літоўскай Рэспублікі 10 студзеня 1997 года. Усе астатнія арганізацыі былі ўтвораны значна раней, а клуб "Сябрына" напрыканцы мая мінулага года адзначыў сваё 10-годдзе, дзень рэгістрацыі якога было вырашана лічыць, між іншым, Днём адраджэння беларускай грамадскай дзейнасці ў Літве.

Зняважлівыя выказванні Л. Мілаш у адрас іншых беларускіх арганізацый і іх кіраўнікоў, якія шчыра і плённа працуюць на ніве беларускага Адраджэння ў Літве, гучаць тым больш незразумела, што яна сама належыць да ліку тых, хто стаяў ля яго вытокаў і з'яўляецца сябрам некалькіх такіх арганізацый, у тым ліку тых, у агарод якіх яна кідае свой камень.

Але гэта хай будзе ўжо на яе сумленні.

З павагаю,

**Лявон МУРАШКА,**
**прэзідэнт Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве.**

ВЫСТАВЫ



# «НА СКРЫЖАВАННІ ЧАСУ»

— так названа выстава-прэзентацыя кафедры народных рамёстваў Беларускага універсітэта культуры, што адбылася ў апошнія дні адыходзячага года ў Мінскім палацы мастацтва. На скрыжаванні старога і новага мы імкнёмся зразумець, хто мы, адкуль мы. Мо таму ўсё часцей у нас з'яўляецца патрэба прыпасці да гаючай крыніцы, імя якой — спадчына. Яна — вытокі духоўнасці, усяго лепшага, што ёсць у нас саміх, што перайшло ад продкаў нашых.

Як радасна было пераканацца ўлетку на рэспубліканскай выставе "Жывыя вытокі", што ніякія праблемы і рэаліі апошніх гадоў не змаглі замуціць чыстую крыніцу народнай творчасці, што традыцыі жывуць, развіваюцца. Нават пры тым, што цяпер даволі часта няма прамой, як раней, перадачы сакрэтаў майстэрства ад бацькі да сына, ад маці да дачкі. І ўсё ж не перавяліся людзі, якія прагнуць сакрэты гэтыя спасцігнуць і несці ў новае тысячагоддзе прыгажосць, пазбаўленую стандарту тэхнічнага прагрэсу.

Такія ж пачуцці ахапілі і на выставе-прэзентацыі кафедры народных рамёстваў. Сам факт стварэння кафедры пяць гадоў таму назад многім падаўся своечасовым. І вось цяпер, калі ёсць ужо пэўныя здабыткі, адбылося яе прадстаўленне на шырокую аўдыторыю.

Саломапляценне, ганчарства, дэкаратыўны роспіс... Лепшыя студэнцкія работы, выкананыя ў гэтых традыцыйных жанрах, уражваюць не толькі ўзроўнем тэхнікі, але і вобразнасцю. Сярод іх "Скарбніца беларуса" С. Смонцар — вялізны куфар, "апрануты" ў саламяныя карункі (кіраўнік — В. Салдатава), таксама з саломкі, вытанчанай работы "Складзень" А. Шацілы (кіраўнік — Л. Малахава), габелены А. Крупновай "Сафія Полацкая" (кіраўнік — Н. Вальнец) і С. Гілеўскай "На раздарожжы" (кіраўнік — А. Непачаловіч), выцінанкі Л. Чарвонцавай "Кола жыцця" (кіраўнік — Л. Малахава), роспіс па шклу В. Сакаловай "Легенда аб млынах" (кіраўнік — Л. Малахава)... Апошняя работа даволі сучасная па сваёй стылістыцы і прываблівае адмысловай дэкаратыўнасцю.

Дарэчы, на кафедры сярод вучэбных майстэрань па традыцыйных рамёствах ёсць таксама майстэрня малюнка, алейнага і акварэльнага жывапісу, камп'ютэрнай графікі. Натуральна, студэнты факультэта вучацца не толькі ў аўдыторыях і майстэрнях. Штогод іх чакаюць пленэр-практыка, вытворчая і педагагічная, вандроўкі ў Мір, Нясвіж, на Браслаўшчыну, якая здаўна славіцца не толькі прыгажосцю сваіх краявідаў, але і народнымі майстрамі.

Кафедру стваралі вядомыя знаўцы народнага мастацтва прафесар М. Раманюк, доктар мастацтвазнаўства В. Шматаў, прафесар, доктар мастацтвазнаўства, старшыня Саюза майстроў народнай творчасці Я. Сахута, прафесар Р. Шаўра. Свой першы афіцыйны экзамен — справаздачу за пяць гадоў працы выкладчыкі і студэнты вытрымалі.

**Марта КОСЦІЧ.**



*А. КРУПНОВА. Габелен "Сафія Полацкая".*



*Г. ПАНАМАРОВА. "Гуканне вясны".*



*А. ШАЦІЛА. "Царскія вароты".*



*В. ДАВЫДЗЁНАК. "Паспялуха".*

*Фота К. ДРОБАВА.*

ПРЭМ'ЕРЫ

## У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ОПЕРЫ

**адбылася прэм'ера: "Паяцы" знакамітага італьянскага кампазітара XIX стагоддзя Руджэра Леанкавала прагучалі ў канцэртным выкананні. Упершыню гэтая опера на беларускай сцэне была пастаўлена ў 1951 годзе.**

Тое, што наш тэатр пачаў не без поспеху выкарыстоўваць канцэртную форму паказу опер (у мінулым сезоне такім чынам выконвалася опера М. Мусаргскага "Барыс Гадуноў"), сведчыць, што за апошнія гады не толькі ён сам набыў пэўныя вышыні, але і глядач, выпешчаны ім, які прывык да выдатнага ўзроўню спектакляў.

Мастацкі кіраўнік тэатра Сяргей Картэс так тлумачыць зварот да канцэртнага выканання: "Можа ўзнікнуць уражанне, што гэта вымушаны кампраміс, які ўзнік з-за матэрыяльных цяжкасцей пастаноўкі спектакля. Гэта сапраўды так, але толькі часткова. За мяжой канцэртнае выкананне — паўнацэнная прафесійная форма зносін з музыкай. Існуюць спецыяльныя фестывалі опер у канцэртным выкананні, якія сфарміравалі цэлы слой сваіх апантаных паклоннікаў. Бо гэта дае магчымасць сур'ёзным слухачам цалкам сканцэнтравацца на прыгажосці музыкі. Для спевакоў жа канцэртнае выкананне дае магчымасць найбольш ярка праявіць сваё майстэрства, раскрыць усе псіхалагічныя нюансы вобраза з дапамогай экспрэсіі ўласнага голасу..."

Прэм'ера "Паяцаў" прайшла пры аншлагу. Першы экзамен здадзены на выдатна. А ўлетку "Паяцы", "Баль-маскарад", "Дон Карлас", "Сялянскі гонар", "Яўгеній Анегін" будуць паказаны на фестывалі ў Салатурне ў Швейцарыі. Асаблівасць салатурнаўскага фестывалю — гучанне опернай класікі ў канцэртным выкананні. Аматары опернага мастацтва з многіх краін свету ахвотна прыязджаюць на гэты фестываль і білеты заказваюць задоўга да яго пачатку.

Між іншым, беларуская опера летась паспяхова паказала сябе ў Салатурне, таму з ёю заключаны кантракт не толькі на 1999 год, але і на 2000.

Такім чынам беларуская опера мае намер працягваць традыцыі канцэртнага выканання опернай класікі. І ў ліку будучых прэм'ер нам абяцаюць — "Набука" Дж. Вердзі, якая рэдка выконваецца, "Турандот" і "Багему" Дж. Пучыні, "Лючыю ды Ламермур" Г. Даніцэці, "Пані Ядвігу" беларускага кампазітара У. Солтана. Ёсць надзея, што найбольш удалыя з іх дачакаюцца свайго сцэнічнага ўвасаблення. Сцэнічную версію "Барыса Гадунова" мы ўбачым у пастаноўцы вядомага беларускага рэжысёра Мікалая Пінігіна, які цяпер працуе ў славутым Санкт-Пецярбургскім ВДД (Вялікім драматычным тэатры), але не адмовіўся зноў супрацоўнічаць з Беларускай операй. У яго пастаноўцы некалькі год таму назад убачыла свет опера С. Картэса "Візіт дамы" (па матывах п'есы Ф. Дзюранмата), якая дагэтуль ідзе з вялікім поспехам. Несумненна, "Барыс Гадуноў" стане падзеяй у культурным жыцці нашай сталіцы.

**Ніна ШАМШУРЫНА**

## РЭРЫХІ Ў СВЕТЛАГОРСКУ...

Святаслаў і Мікалай Рэрыхі — вялікія дзеячы сусветнай культуры. Яны і выдатныя мастакі. Перасоўная выстава іх работ прайшла па Беларусі. З ёю раней пазнаёміліся аматары мастацтва Віцебска, а потым і жыхары Светлагорска. Экспазіцыя з 56 работ-арыгіналаў была адкрыта ў музеі гісторыі горада. Арганізатары унікальнай выставы — Міжнародны цэнтр Рэрыхаў у Маскве, гомельскі інфармацыйна-культурны цэнтр "Адамант" і аддзел культуры Светлагорска. Да таго ж, экспазіцыя ўключае каляровыя ксеракопіі архіўных дакументаў пра жыццё і творчасць вялікай сям'і.

«Голас Радзімы»

Рэдакцыйная калегія

**Заснавальнікі:**

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).

Тыраж 1 604 экз. Індэкс 63854. Зак. 228.

Падпісана да друку 8. 02. 1999 г. у 12.00.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны:**
**(+375-17) 13-31-97, 13-32-80, 13-30-15, 84-76-56, 13-37-82.**